# БЕЛАРУСКІ ДАЙДЖЭСТ



BELARUSIAN DIGEST

ГАЗЭТА БЕЛАРУСКАГА ЗАМЕЖЖА ў АМЭРЫЦЫ

1086 Forest Hills, SE.
Grand Rapids, MI 49546-3616 USA.

№ 11(106) Лістапад 2002 November Год выд. 10.


**ДАПАМАГАЙЦЕ БЕЛАРУСІ ў ЗМАГАНЬНІ ЗА НЕЗАЛЕЖНАСЬЦЬ, СВАБОДУ І ПРАЎДУ!**

# СЛУЦКІ ЗБРОЙНЫ ЧЫН

**27-га лістапада — нацыянальнае сьвята — Дзень Герояў, гадавіна Слуцкага Паўстаньня...**




<u>**Нашто туманіць вочы і розум?..**</u>

## РАСЕЯ І БЕЛАРУСЬ НЕ ЗЬБІРАЮЦЦА АБ'ЯДНОЎВАЦЬ СВАЕ ЎЗБРОЕНЫЯ СІЛЫ

*Міністры абароны Расеі й Беларусі не лічаць за неабходнае ствараць бліжэйшым часам адзіны орган ваеннага ўпраўленьня ўзброенымі сіламі дзьвюх краін. Пра гэта яны заявілі ў пятніцу на прэсавай канфэрэнцыі па завяршэньні паседжаньня сумеснай калегіі Міністэрстваў абароны Расеі й Беларусі. Як падкрэсьліў міністар абароны Расеі Сяргей Іваноў, "ваенна-палітычная сытуацыя зараз гэтага не патрабуе". Паводле ягоных словаў, стварэньне сталага органа, свайго роду штабу, плянуецца на будучыню, і распрацоўкай гэтых плянаў займаюцца генэральныя штабы абедзьвюх краін. "Але зараз у стварэньні гэтага органа мы сэнсу ня бачым", -- падкрэсьліў ён.*

Міністар абароны Беларусі Леанід Мальцаў зазначыў, што *"цяперашняя сыстэма камандаваньня забясьпечыць эфектоўнае ўпраўленьне ня толькі нацыянальнымі ўзброенымі сіламі Расеі й Беларусі, але таксама і ў рамках аб'яднаўчай сыстэмы супрацьпаветранай абароны, у прыватнасьці, падчас сумеснага баявога дзяжурства"*. Гэта, паводле яго словаў, адносіцца і да стварэньня адпаведных органаў упраўленьня рэгіянальнай групоўкі войск. *"На дадзены момант няма неабходнасьці штосьці ствараць дадаткова"*, - адзначыў Мальцаў.

Адказваючы на пытаньне карэспанэнта РІА <u>*"Новости"*</u> аб тым, чаму на паседажньні калегіі ня быў падпісаны дакумант аб стварэньні адзінай рэгіянальнай сыстэмы СПА, як гэта плянавалася раней, міністры паведамілі, што *"дакумэнт яшчэ не гатовы"*. У той самы час яны запэўнілі, што праблема мае чыста тэхнічны характар. Як падкрэсьліў міністар аброны РФ Сяргей Іваноў, *"агульная сыстэма СПА, яе рэгіянальныя складнікі, працуюць цалкам нармальна"*. На сумеснай калегіі міністэрстваў абароны Расеі й Беларусі таксама прынятае рашэньне аб сінхранізацыі рэфармаваньня ваеннай арганізацыі дзьвюх дзяржаваў. *"Мы вырашылі пачаць працэс узгадненьня рэфармаваньня ваенай арганізацыі Расеі й Беларусі, які закране ня толькі ўзброеныя сілы дзьвюх дзяржаваў, але і ўнутраныя войскі, памежслужбу, чыгуначныя войскі, ФСБ і іншыя ведамствы"*, -- сказаў Іваноў у пятніцу па завяршэньні калегіі.

Ён адзначыў, што Масква й Менск выпрацуюць адзіныя прынцыпы, стандарты і адзіную аснову пры ўніфікацыі працэсу рэфармаваньня ваеннай арганізацыі Расеі й Беларусі.

На Захадзе, нават кругламу дурню, даўно вядома, што ніякае беларускае арміі не існуе. Тое, што называюць беларускай арміяй, гэта нішто іншае, як маскоўская групоўка часова размешчаная на Беларусі... Дык нашто аб'ядноўваць тое, што даўно аб'яднанае?..

## ЛІНГ СЫШОЎ ПА ЎЛАСНЫМ ЖАДАНЬНІ

Сталы прадстаўнік Беларусі ў Арганізацыі аб'яднаных нацыяў Сяргей Лінг вызвалены ад пасады па ўласнай просьбе. Пра гэта, адказваючы на пытаньні журналістаў на брыфінгу ў МЗС, заявіў "Медиафакту" прэсавы сакратар беларускага замежнапалітычнага ведамства Павал Латушка. Паводле словаў Латушкі, просьба Лінга выклікана станам здароўя ягонай жонкі. Экс-постстаршыня на дадзены момант ужо знаходзіцца ў Беларусі, адзначыў ён.

**BELARUSIAN DIGEST**
Беларускі Дайджэст

1086 Forest Hills, SE.
Grand Rapids, MI. 49546-3616
U.S.A.
Phone: (616) 942-0108; Fax: (616) 942-6364
E-mail: bdigest@iserv.net
Publisher & Editor — Nikolas Prusky
Выдавец і Рэдактар — Мікола Прускі

Belarusian Digest, (ISSN 1079-7696) is published monthly by Belarusian Digest, 1086 Forest Hills, SE. Grand Rapids, MI 49546-3616, U.S.A.
Артыкулы і допісы могуць выяўляць пагляды, з якімі Рэдакцыя не згаджаецца.

# Унукі здзівяцца, якія мы былі сляпыя

Чаму мы сталі выміраць? Чаму п'ём без усякае меры? Ды таму, што жыццё наша беспрасветнае, безнадзейнае, таму што ніхто не ведае, што чакае нас заўтра -- заўтра можа і не быць. Таму людзі жывуць толькі сённяшнім днём. На нешта значнае для сям'і, для гаспадаркі грошай няма, зарплата кароткая, таму з гора, з крыўды, са злосці -- чалавек бярэ пляшку і залівае агонь, які гарыць у яго душы ўжо даўно, гадамі. На нейкі час робіцца лягчэй, можна атрымаць кароткую разрадку, выказаць усё, што набалела, калі ёсць каму слухаць, а можна яшчэ глыбей апусціцца ў багну нявер'я і крыўды, можна ўпасці ў адчай.

Суіцыд у нас робіцца будзённай рэччу. У лепшы свет ідзе болей, чым нараджаецца. Ніхто не хоча мець лішніх клопатаў -- і гадаваць другое ці трэцяе дзіця, спыняюцца на адным. Дык добра, калі яно дажыве да сталага ўзросту, прадоўжыць жыццё і свой род. А як не? Колькі мы ведаем такіх прыкладаў? Вось таму і меншае з кожным годам наша нацыя, таму і закрываюцца школы, таму і выміраюць цэлыя вёскі.

Але мала таго, што мы вымiраем фізічна. Мы вымiраем яшчэ і духоўна -- мы трацім родную мову, а з моваю -- і сябе. Мы пускаем у сваю душу чужую сілу, якая паступова будзе перарабляць нас -- і мы не заўважым, як станем чужымі гэтай зямлі і гэтаму народу, сярод якога мы выраслі. І такіх людзей становіцца ўсё больш і больш, бо дзеці іх пойдуць у школу і з першага класа ўжо будуць вывучаць рускую мову як родную, а тую, што забылі іх бацькі, будуць вывучаць з трэцяга класа -- як нейкую чужую, ледзь не замежную. І ўсё больш і больш аддаляцца ад свайго, роднага. Вернуцца назад адзінкі, а прападуць для нацыі, для народа -- тысячы, а мо і мільёны. Іх забірае наша родная школа, якая ўжо стала антынароднай, бо робіць з нашых дзяцей чужакоў -- янычараў, якія потым гатовы пайсці ў нейкі там АМАП і біць гумовымі палкамі тых, хто яшчэ не адрокся ад сваіх каранёў -- і гаворыць на матчынай мове.

Што можа адчуваць кіраўнік дзяржавы, калі яго прынародна, на ўвесь свет зняважылі, адкінуўшы ўсе яго ранейшыя прапановы наконт аб'яднання? Якраз ён апынуўся ў ролі таго беларуса, што, адкінуўшы сваё, захацеў апранууца ў чужое. А яму сказалі: не поп -- не ўбірайся ў рызы. Праўдзівей так: ты там быў першы, а ў нас будзеш -- яшчэ пабачым, кім. Згодзен на такі варыянт?

Натуральна, што наш кіраўнік не згадзіўся. Ды як яму было згадзіцца? З чым жа ён заставаўся? Але не толькі ён сам. А мы ўсе? Хто мы сталі б? Ці тымі, што былі, ці нечым новым, якому нават цяжка знайсці назву?

Няхай гэты варыянт не будзе прыняты, але прэцэдэнт ёсць. Гэта папярэджанне нам усім, у тым ліку і прэзідэнту. У аб'яднанні ёсць заўсёды пагроза, што большы "праглыне" меншага. Так было і будзе: Слон можа наступіць на Моську -- і ніхто не заўважыць і не пачуе піску.

Для чаго аб'ядноўваць дзве сям'і, у адной з якіх два чалавекі, а ў другой -- дванаццаць? Ці не лепш заставацца добрымі суседзямі і пры неабходнасці дапамагаць адзін аднаму нейкімі парадамі ці нават матэрыяльнымі дабротамі, калі ў гэтым будзе патрэба? Бо пры такім markings рознавялікім аб'яднанні заўсёды знойдзецца пакрыўджаны, а гэта рана ці позна прывядзе да супрацьлеглага жадання-раз'яднання.

Мне здаецца, што Еўрапейскі Саюз таксама недаўгавечны, бо там шмат рознавялікіх складнікаў і рана ці позна ён пачне развальвацца, і добра яшчэ, калі мірным шляхам. А што, як пачнецца новая вайна?

Небяспечна захапляцца навацыямі, калі не ведаеш, чым яны могуць скончыцца, -- па прымаўцы: не кліч воўка з лесу, ён і сам прыйдзе. Не будзем забываць, што вельмі шмат залежыць ад таго чалавека, які сядзіць на самым версе піраміды. Калі ён разумны і памяркоўны, будзе мір і парадак у гаспадарцы ці краіне, а калі гэта чалавек авантурны, нястрыманы, дробязны і помслівы, тады можна чакаць вялікай бяды. Па прымаўцы: каня бойся ззаду, карову -- спераду, а дурня -- з усіх бакоў.

Кожнае новае пакаленне дае сваіх лідэраў, і няма гарантый ад таго, што лідэрам можа стаць чалавек, які ўзбунтуе свет, стане свайго роду дэтанатарам да парахавой бочкі. Вы паглядзіце сёння на каленагаловых: хіба гэта не парахавая бочка ў цэнтры Еўропы? Дарэчы, яны -- першая, але, відаць, не апошняя рэакцыя на аб'яднанне Еўропы, на глабалізацыю ўвогуле.

Дык чаму мы павінны ігнараваць гэтыя такі зразумелы ўсім сігнал трывогі? Да таго ж яшчэ не вядома, як паводзіць сябе долар у адносінах да новай валюты -- еўра, ці доўга ён будзе цярпець такога дзёрзкага суперніка? Грошы -- гэта тая ж самая парахавая бочка, якая не выносіць высокай тэмпературы. Рана ці позна, а інтарэсы ЗША і Еўропы могуць разысціся ў розныя бакі, і канфлікт непазбежны. А гэта будзе на руку так званаму трэцяму свету, які толькі і чакае, каб трохі аслабелі гэтыя дзве сусветныя сілы.

Я ўжо даўно казаў, што хацеў бы быць прыхільнікам і сябрам свайго кіраўніцтва, каб яно было такім, як таго патрабуе яго высокі статус: каб яно кіравала ў інтарэсах свайго народа -- менавіта беларускага, а не нейкага там міфічнага народа наогул. Каб яно гаварыла са сваім народам на яго роднай мове. Бо як я магу любіць ці нават паважаць чалавека, які на сваёй высокай пасадзе ігнаруе агульначалавечае правіла -- і гаворыць са мною, са сваім народам на суседавай мове? Дзе на свеце, у якой краіне такое яшчэ можна ўбачыць і пачуць? Нідзе! Дык ці можам мы, беларускія пісьменнікі і наогул шчырыя беларусы, паважаць такога кіраўніка? А ці можа ён нас паважаць, што мы не хочам браць з яго прыклад і не пераходзім на мову суседа, а трымаемся за сваё, не хочам стаць чужакамі на сваёй уласнай зямлі? Не мы вінаватыя, што наш кіраўнік ігнаруе элементарныя ісціны і, па ўсім відаць, лічыць, што мы, пісьменнікі, патрабуем ад яго немагчымага. Аднак жа адлучаць народ ад яго роднай мовы, ігнараваць мову карэннага народа -- гэта не толькі парушэнне маралі і этыкі, але і парушэнне Канстытуцыі. Бо свабода слова -- гэта перш за ўсё свабода роднага слова, роднае мовы.

Пры такіх адносінах да нацыянальнай ідэі як да нечага чужога і незразумелага народу ствараецца штучны падзел на левых і правых, на сваіх і чужых. Мы не ідзём адным строем, адною калонаю, а мы ідзём групамі, кучкамі, і зусім у розныя бакі. Дык куды мы можам прыйсці? Які плён з нашага такога ходу-паходу мы будзем мець? Пытанне не лішняе. Калі мы не адкажам на яго сёння, заўтра можа быць позна. Заўтра можа і не быць зусім. Ці гэтага мы хочам?

Няўжо нельга адрозніць праўды ад няпраўды, белага ад чорнага? Урэшце, калі мы не зможам гэтага зрабіць цяпер, дык гэта зробяць пасля нас нашы ўнукі і праўнукі -- і здзівяцца, якія мы былі сляпыя. Упэўнены, што сляпымі назавуць не тых, хто сёння абараняе сваё, роднае, нацыянальнае. І здзівяцца, што тыя, што былі на вяршыні піраміды і павінны былі бачыць далёка, не бачылі далей свайго носа.

Але сёння нас хочуць пераканаць, што мы памыляемся, што мы свядома хочам перашкодзіць маршу ў светлае заўтра. І калі б не мы, дык яны -- тыя, хто кіруе і вядзе, -- ужо даўно былі б у гэтым светлым заўтра... Дык мы ўжо туды ішлі, ужо, здавалася, ступілі туды адною нагою, але аказалася, што гэта ілюзія, выдумка, фантазія тых, хто агітаваў і хацеў, каб людзі паверылі ў казкі пра светлае заўтра.

Дык колькі можна наступаць на тыя самыя граблі? Наш рэжым не выносіць ніякай апазіцыі, і хто ў яе трапіў -- гэта ўжо "отморозки", ні больш ні менш. А між тым апазіцыя ў кожнай дзяржаве вельмі патрэбна, бо яна паказвае ўладзе люстэрка, у якім гэтая ўлада бачыць свой сапраўдны твар -- ласкавы ці перакошаны ад злосці. За гэта яе і не любяць, за гэта яе абліваюць брудам і топчуць у гразь. А вось што сказаў пра апазіцыю вядомы аўтар кнігі "Жыццё Ісуса" Эрнст Ронан: "Партыя апазіцыі заўсёды складае славу свайго краю. Найвялікшыя людзі нацыі часта тыя, якіх яна асуджае на смяротную кару. Сакрат праславіў Афіны, якія лічылі, што з ім жыць немагчыма. Спіноза -- найвялікшы з яўрэяў свайго часу, а між тым сінагога выставіла яго на пасмешышча. Ісус быў славай народа Ізраіля, народа, які яго прадаў".

Сёння, каб не было апазіцыі, наша ўлада зрабіла б выгляд, што наша нацыя не дэградуе, не гіне ад Чарнобыля, не співаецца ад беспрасветнага, вялікай дзяржаўнай мэты жыцця ("я свой народ за цивилизованным миром не поведу"), што людзі жывуць абы дзень да вечара, не хочуць -- і не могуць -- мець двоетрое дзяцей, каб нацыя не скарачалася, як цяпер. Ці думае пра гэта наш галоўны стратэг? Мо і думае, але што ён робіць, каб мы, беларусы, не звяліся са свету?

Дык як мы, пісьменнікі, сумленне нацыі, можам славіць той лад, які вядзе да ліквідацыі ўсяго нашага святога, беларускага? Як мы можам з ім супрацоўнічаць? Гэта тое самае, што сябраваць са сваім магільшчыкам. Як у тым анекдоце пра алкаголіка. У яго пытаюць: "Ці будзеш ты сябраваць з чалавекам, калі даведаешся, што ён хоча цябе забіць?" -- "Ну што ты, -- адказвае алкаголік, -- я яго за сто вёрст абыду". Тады зноў пытаюць: "А што ж ты сябруеш з алкаголем, які забіў мільёны, заб'е яшчэ мільёны -- і цябе таксама". Алкаголік, падумаўшы, адказвае: "Мо ён мяне і пашкадуе, я яму чэсна служу".

Ну, мы ўсе ведаем, што алкаголь нікога не шкадуе -- ён б'е без промаху.

Дык вось, каб не апынуліся мы ў незайздроснай ролі алкаголіка, далучыўшыся да Расіі.

Уладзімір **ДАМАШЭВІЧ**. (Нар. Воля)

==================================================

# ЧАМУ БЕЛАРУСКІЯ ЭМІГРАНТЫ Ў ПОЛЬШЧЫ НЯ МОГУЦЬ ЗНАЙСЬЦІ АГУЛЬНУЮ МОВУ?

Ў папулярным агульнапольскім штодзёньніку "Rzeczspospolita" зьявіўся вялікі артыкул, прысьвечаны новай беларускай палітычнай эміграцыі ў Польшчы. Матэрыял Аркадыюша Бартосяка ёсьць, бадай, першай настолькі сур'ёзнай і маштабнай спробай дасьледаваньня сучаснай беларускай эміграцыі ў Польшчы.

Аляксей Дзікавіцкі, Варшава

Прыкладам, лідэр Кансэрватыўна-хрысьціянскай партыі БНФ Зянон Пазьняк лічыць, што ў Польшчы, акрамя яго і ягонай сям'і, палітычных эмігрантаў няма. "Тут ёсьць ад сілы некалькі дзясяткаў бізнэсоўцаў і журналістаў, якіх напалохалі спэцслужбы, ды пару хлопцаў, што атрымалі дубінкай па карку і адразу зрабіліся палітыкамі. Аднак ім толькі падаецца, што яны займаюцца палітыкай", – сказаў "Rzeczspospolitej" Зянон Пазьняк.

Іншыя – ад былога прыхільніка Лукашэнкі, бізнэсоўца і дэпутата палаты прадстаўнікоў, а цяпер намесьніка старшыні Зьвязу Беларускіх палітычных уцекачоў Валера Кругавога да сябра незарэгістраванага моладзевага руху "Зубр" Антона – распавядаюць пра свае спробы выжыць у чужой краіне ды далейшыя спробы займацца палітыкай.

Цікавым падаецца меркаваньне вядомага беларускага пісьменьніка зь Беласточчыны Сакрата Яновіча, які кажа, што слабасьць цяперашняй хвалі беларускай эміграцыі ў тым, што яна ня мае апоры за мяжой. Паводле спадара Яновіча, цяперашнія эмігранты ў большасьці значна больш адукаваныя, чымся іхныя суайчыньнікі з паваеннай хвалі, і маюць зусім іншыя погляды, таму ім цяжка знайсьці агульную мову.

У артыкуле не бракуе таксама меркаваньняў, што шмат хто з эмігрантаў – гэта людзі, далёкія ад палітыкі, прыкладам, бізнэсоўцы, якія, зьехаўшы ў Польшчу, вымушана зрабіліся апазыцыянэрамі, каб атрымаць тут прытулак.

Аднак усе гэтыя меркаваньні – гэта, перадусім, погляд беларусаў на беларусаў, і таму погляд а priori суб'ектыўны. Я запытаўся у аўтара матэрыялу, аглядальніка "Rzeczspospolitej" Аркадыюша Бартосяка, якой яму падалася сучасная беларуская эміграцыя ў Польшчы.

(Бартосяк:) "Перадусім, яна вельмі незарганізаваная, нягледзячы на шматлікія спробы аб'яднаньня. Добра, што гэткія спробы ёсьць, бо толькі аб'яднаная эміграцыя можа насамрэч уплываць на лёс сваёй краіны з-за мяжы. На маю думку, кансалідацыі перашкаджае тое, што эмігранты ў асноўным людзі маладыя. Часта яны прыяжджаюць на чужыну ўжо пасвараныя, таму мусіць мінуць пэўны час, пакуль прыйдзе разуменьне, што тут на тыя сваркі трэба забыцца. Яшчэ важны момант – беларусы нярэдка маюць клопат з самавызначэньнем. Я сустракаўся з рознымі эмігрантамі. Адзін кажа – той ня ўмее добра гаварыць па-беларуску, другі – ён ня ў тым парлямэнце быў, трэці – агент і гэтак далей. На пачатку гэткіх рэчаў нельга пазьбегнуць, і я пра гэта напісаў. Спадзяюся, што беларускія эмігранты не падумаюць, што я хацеў іх толькі скрытыкаваць. Насамрэч – наадварот, я жадаю ім ўсяго найлепшага і хачу, каб пасьпяхова разьвіваліся тыя арганізацыі, якія існуюць і яшчэ паўстала нешта кшталту беларускага інфармацыйнага цэнтру. Гэта рэч вельмі важная".

"Спадар Бартосяк, часам можна пачуць, што ўнутры Польшчы ёсьць сілы, якія ня хочуць, каб тут паўсталі моцныя эміграцкія арганізацыі. Як вы думаеце, ці гэта праўда?"

"Я ня ведаю, каму ў Польшчы было б выгодна, каб беларусы не аб'ядноўваліся і ня мелі тут моцнага голасу. Я, канечне, чуў думкі, што Польшча робіць тое, што ёй загадвае Захад і таму забываецца на Беларусь, бо Беларусь, маўляў, пакінутая ўплывам Масквы. Але я ў гэта ня веру. Думаю, што прыйдзе час, што мы яшчэ больш будзем цікавіцца тым, што дзеецца ў Беларусі. І я спадзяюся, што ў Польшчы ніхто не зацікаўлены ў тым, каб перашкаджаць змаганьню беларускай апазыцыі з рэжымам. Прычым, як апазыцыі, якая знаходзіцца ў Беларусі, так і ў Польшчы. Я магу памыляцца, але не хацеў бы".

**********************************************

# Барыс Нямцоў пайшоў дамоў

Раніцай 23 кастрычніка ў аэрапорце "Менск-2" адразу пасьля прызямленьня самалёту з Масквы былі затрыманыя лідэры расейскага Саюзу правых сілаў Барыс Нямцоў і Ірына Хакамада. Яны мусілі браць удзел у канфэрэнцыі па беларуска-расейскай інтэграцыі. Каля Міжнароднага адукацыйнага цэнтру, дзе паседжаньне адбывалася, іх ужо чакалі некалькі дзясяткаў сяброў незарэгістраваных арганізацый "Малады фронт" і "Беларуская партыя свабоды", якія ладзілі антыінтэграцыйны пікет. Расейскую дэлегацыю закідалі яйкамі -- вось і думай, каму больш не пашанцавала: дэпартаванаму Нямцову ці ўсім астатнім.

Прэсавая служба МЗС сьцьвярджае, што "антынямцоўская спэцапэрацыя" КДБ праводзілася па ананімным тэлефанаваньні. Быццам бы а сёмай раніцы невядомы папярэдзіў, што расейскі палітык будзе везьці грошы беларускай апазыцыі. Аднак кіраўнікі СПС кажуць, што беларускія спэцслужбісты ляцелі разам зь імі ў самалёце з Масквы і што акцыя была добра сплянаваная. Незразумела, ці сапраўды канфіскаваныя 50 тыс. даляраў і "падрыўная літаратура" (г.зн. выданні СПС) належалі Нямцову. І ён, і Хакамада ад грошай адмаўляюцца і сьцьвярджаюць, што ім пачкі падкінулі ў аэрапорце. Камэнтатар БТ зьедліва заявіў, што гэтыя 50 тысяч пойдуць на пабудову Нацыянальнай бібліятэкі...

Як паведамляе прэсавая служба КДБ, была пастанова пра дэпартацыю толькі Барыса Нямцова ("непажаданай асобай" у Беларусі ён стаў яшчэ колькі дзён таму, што пацьвярджае падрыхтоўку беларускага боку да ягонага прыезду), а Ірына Хакамада вярнулася ў Маскву па ўласнай волі. Супрацоўнікі спэцслужбаў адвезьлі іх у аэрапорт "Менск-1" і пасадзілі ў рэйсавы самалёт, які ляцеў у Маскву. Цяпер расейскаму палітыку забаронены ўезд на тэрыторыю нашай краіны, бо ён абвінавачваецца ў "нанясеньні шкоды нацыянальным і дзяржаўным інтарэсам Рэспублікі Беларусі".

Менскія падзеі выклікалі дыпляматычны скандал. Пра сваю незадаволенасьць дзеяньнямі беларускіх уладаў выказаліся расейскае МЗС і ўрад. Яшчэ больш вострымі былі камэнтары Нямцова і Хакамады, упэўненых, што "рэжым Лукашэнкі ў агоніі". Зь беларускага боку рэакцыя розная: Анатоль Лябедзька выбачыўся перад расейцамі за інцыдэнт у менскім аэрапорце, Аляксандар Дабравольскі лічыць, што здарэньне будзе мець "нэгатыўныя наступствы" для Беларусі. Між тым, паспалітае грамадзтва цешыцца так, нібы гэта беларускія хакеісты перамаглі расейцаў. Пасьля векавых крыўдаў кожнае прыніжэньне Масквы ўспрымаецца з доляй зларадасьці. ...А шуму ў сьвеце! Зь Беларусі выгналі расейцаў. Гэта вам ужо ня *White Russia*, якая -- таксама Расея.

Гэта Ельцын мог затэлефанаваць і сказаць: Аляксандар Рыгоравіч, разьбярыся, навошта гэты скандал. Пуцін так ня можа. Ён сядзіць у сваім акопе і нават дапусьціць ня можа палюбоўнага рашэньня! Халодная вайна прэзыдэнтаў дасягнула апагею. Стала ясна: беларускае кіраўніцтва і асабіста Аляксандар Лукашэнка не зьбіраюцца маўкліва і бязьдзейна чакаць новых прапановаў па інтэграцыі з Масквы. Дэпартацыяй Нямцова расейскаму боку было прадэманстравана, што Лукашэнка не дэмаралізаваны, што ён здольны на сваю гульню, разьлічаную ў тым ліку і на левы расейскі электарат. Безумоўна, перадусім гэта была асабістая помста Барысу Нямцову за ягоныя абразьлівыя выказваньні на адрас А.Лукашэнкі, але гэта таксама і адказ таму расейскаму палітыку, які ўмее "аддзяляць мух ад катлетаў". Фактычна, А.Лукашэнка адным ударам забіў некалькіх зайцоў: адпомсьціў расейцам за свае крыўды, сапсаваў настрой беларускім партнэрам СПС ды зрабіў выдатны падарунак беларускім правым, выступіўшы зь імі ў гэты дзень "адзіным фронтам".

Таму ня трэба зьдзіўляцца, што ўвечары 23-га кастрычніка БТ паказала сюжэт зь пікету, дало слова Паўлу Севярынцу і Сяргею Высоцкаму. Асабліва падкрэсьлі-валася, што моладзь пратэстуе супраць гандлю незалежнасьцю, які, на іх думку, наладзілі апазыцыйныя палітыкі ды іх расейскія калегі. Кіраўніку АГП Анатолю Лябедзьку, напрыклад, пікетоўцы сабралі грошы на квіток да Масквы, якія ён, аднак, прыняць адмовіўся.

Аднак і тут Лукашэнка застаўся верны сабе й той бабці, якая надвое варажыла: пасьля пікету Севярынца, Высоцкага ды яшчэ дзе-каго з занадта актыўных пазабіралі ў пастарунак.

А вечарам чачэнцы захапілі 900 гледачоў мюзыклу *"Nord-Ost"*. Іх патрабаваньне -- спыніць вайну. Дзень 23 кастрычніка стаў чорным днём Расеі. Дзьве такія аплявухі Расея будзе памятаць доўга.

Алег **Тачоны** (Наша Ніва)

Васіль Сокал

# На хвалях часу

*"Вызваленьне Заходняй Беларусі, альбо Зьмена дэкарацый"*

Пра рашэньне савецкага ўраду аб аказаньні 17 верасьня 1939 г. "братняй дапамогі" працоўным Заходняй Беларусі жыхары вёскі Зубелевічы ня чулі, бо не было ў вяскоўцаў лямпавых радыёпрыймачоў, адзін дэтэктарны, на якім можна было прымаць адно Баранавіцкую радыёстанцыю, што на той час ужо маўчала. Вяскоўцы толькі на другі дзень на свае вочы ўбачылі чырвоныя зоркі на крылах самалётаў, якія ляцелі на нізкай вышыні й несьлі з усходу "братнюю дапамогу, свабоду, роўнасьць, братэрства, радасьць ды шчасьце сацыялізму". Людзі ўспрынялі навіну "вызваленьня" па-рознаму: адны радаваліся, нейкія паставіліся насьцярожана, іншыя, якіх была бальшыня, загадкава маўчалі...

Тым часам з усходу па тракце Клецак—Ляхавічы—Баранавічы ехалі наладаваныя рознымі пажыткамі фурманкі, на якіх сядзелі дзеці і дарослыя. Гэта былі сем'і польскіх урадоўцаў, асаднікаў, фальваркоўцаў, якія ня проста баяліся патрапіць у абдымкі "братоў з усходу", тым больш "братоў" ва ўніформе НКУС, але страшэнна імкнуліся пазьбегнуць тых гідкіх "братэрскіх пацалункаў". Інтуіцыя іх не падвяла.

Дзесьці на трэці-чацьверты дзень у вёсцы Зубелевічы ўбачылі "вызваліцеляў". Дзень быў хмуры, імглісты. Яны зьявіліся неяк нечакана і не па шляху Клецак—Ляхавічы, а па палявой дарозе, якая вяла з Падлесься на Зубелевічы. Гэта былі разьведчыкі на танкетках. Разьведчыкі запыталіся ў вяскоўцаў, ці ёсьць у навакольлі польскія жаўнеры, на што тыя адказалі, што няма. Раптоўна каля "вызваліцеляў" утварылася купка хлопчыкаў, якія пільна ўзіраліся ў твары камандзіраў з надзеяй, што тыя будуць адорваць іх ласункамі, як некалі польскія афіцэры, якія кватаравалі ў вёсцы Зубелевічы падчас вайсковых манэўраў 1933 г. і шчодра раздавалі вясковай дзятве манэткі з "ажэлкам". На гэтыя грошы хлапчукі потым набывалі ў кааператыўнай краме розныя прысмакі. Толькі дарэмныя былі спадзяваньні дзяцей: камандзіры краіны "багацьця й дастатку" гэтакай магчымасьці ня мелі. Тым часам вяскоўцы вялі з прыбылымі размову пра жыцьцё-быцьцё ў краіне саветаў. Камандзіры ўхіляліся ад адказаў на канкрэтныя пытаньні, а "рэзалі" толькі добра завучанымі фразамі, мабыць, засвоенымі хіба на палітзанятках ды інструктажах паліткамісараў. Некаторыя вяскоўцы скардзіліся камандзірам, што палякі дужа марылі іх голадам. Камандзіры на гэта маўчалі, а чырвонаармейцы загадкава ўсьміхаліся. Некаторыя гультаяватыя дзядзькі дзякавалі прышэльцам за "вызваленьне" і выказвалі спадзяваньні, што цяпер усе ў Заходняй Беларусі будуць роўныя. Як паказаў час, гэтая роўнасьць — у жабрацтве — спадарожнічала ім аж да адыходу ў "іншы сьвет".

Я быў там таксама і, слухаючы завучаныя фразы савецкіх камандзіраў, міжволі ўспомніў колішні аповед майго бацькі. У час бальшавіцкага паходу на Варшаву ў Зубелевічах стаялі чырвонаармейцы, адзін зь іх сказаў майму бацьку: *"Отец, теперь все будем равны"*. А бацька без дыпляматычнай прыхованкі адказаў: "Сынку, паглядзі на лес: не пароўнаваў Бог лесу, не пароўнуе й людзей!" Абураны бальшавіцкі змагар за роўнасьць хацеў бацьку адразу застрэліць, але яму не дазволіў камандзір, што праходзіў міма. Паглядзеўшы на бацьку, які стаяў перад імі ў даматканай вопратцы й лапцях, ён сказаў: *"Да брось ты это дело, разве не видишь, что перед тобой несознательный мужик, а не сознательная контра"*.

Разьведчыкі падаліся на Ляхавічы і хутка ўжо былі ў мястэчку. Чырвоныя камандзіры, а таксама розная навалач, якая цягнулася за імі ў абозе з усходу, каб заняць пасады, пакінутыя "крывасмокамі польскага жонду", у хуткім часе ўвіхаліся ўжо па справе "вызваленьня" габрэйскіх крамаў ад прамысловых ды іншых замежных тавараў. Вядома, без экспрапрыяцыі — за савецкія рублі. *"Товарищи"* так пашчыравалі, што за пару тыдняў крамы апусьцелі. Затое пачкі з мануфактурай, вопраткай, абуткам ды іншымі прамысловымі таварамі паплылі па палявой пошце з "жабрацкай" Заходняй Беларусі на ўсход.

Хутка ў мястэчка Ляхавічы прыбыў зь Менску, з ЦК КПБ(б), упаўнаважаны, пры якім было створана "Ўпраўленьне па кіраваньні грамадзкім парадкам" і адначасова "Чырвоная гвардыя" для аховы грамадзкага парадку. Часовае "ўпраўленьне" і "Чырвоная гвардыя" ўкамплектаваліся выключна з былых падпольшчыкаў КПЗБ — Камуністычнай партыі Заходняй Беларусі — і КСМЗБ — Камуністычнага саюзу моладзі Заходняй Беларусі. Спачатку ўзначаліў "упраўленьне" Янка Патаповіч, жыхар вёскі Рачканы. Патаповіч паходзіў з заможнай сялянскай сям'і: у бацькі пры Польшчы быў вялікі надзел, уласны паравы млын, розныя мэханізаваныя сельскагаспадарчыя прылады. Сам Янка вучыўся ў Віленскай беларускай гімназіі, потым — ва ўнівэрсытэце імя Сьцяпана Батуры ў Вільні. Патаповіч пісаў вершы, некаторыя зь іх друкаваліся ў заходнебеларускай пэрыёдыцы. За актыўны ўдзел у камуністычным падпольлі быў арыштаваны і асуджаны на пяць гадоў турмы. У 1935 г. яго вызвалілі дэкрэтам прэзыдэнта Рэчы Паспалітай па амністыі з нагоды сьмерці Пілсудзкага. Вярнуўшыся ў сваю вёску Рачканы, Патаповіч займаўся арганізацыяй беларускіх спажывецкіх кааператываў у Ляхавіцкай гміне. "Чырвоную гвардыю" ўзначаліў Сьцяпан Праневіч, былы сакратар камуністычнай ячэйкі зь вёскі Жарабковічы.

Нечакана для чальцоў "упраўленьня" Янка Патаповіч быў арыштаваны баранавіцкім НКУС і пасаджаны ў турму ў Баранавічах. Новым старшынём "упраўленьня" быў прызначаны Барыс Махляр, былы арганізатар ячэйкі КПЗБ у вёсцы Вялікая Лотва, былы сакратар Ляхавіцкага райкаму КПЗБ. Барыс Махляр зь сябрам "упраўленьня" Віктарам Чарапавіцкім, былым сакратаром ячэйкі КПЗБ зь вёскі Перахрэсьце, паехалі ў Баранавічы ва ўпраўленьне НКУС прасіць, каб Патаповіча выпусьцілі з турмы, бо яны добра ведаюць яго як актыўнага падпольшчыка, сумленнага і шчырага чалавека. НКУСавец, да якога яны зьвярнуліся, запытаўся, ці добра знаёмы Махляру і Чарапавіцкаму почырк Патаповіча. Калі яны пацьвердзілі, што так, службовец вынуў з сэйфу ліст паперы, напісаны — яны пазналі — рукою Патаповіча. Гэта была заява, у якой Янка прызнаваўся ў добраахвотным супрацоўніцтве з польскай паліцыяй. Пра арышт Патаповіча і хадайніцтва за яго расказаў мне асабіста Віктар Чарапавіцкі, калі я зьбіраў матэрыялы пра камуністычнае падпольле для кнігі "Памяць. Ляхавіцкі раён". Далейшы лёс Янкі Патаповіча дакладна невядомы, магчыма, што знайшоў ён сабе прытулак у Курапатах... У 1990-х Патаповіч быў рэабілітаваны "за адсутнасьцю складу злачынства". У навакольных вёсках стыхійна ствараліся "сельрэўкамы". Упраўленьне і сельрэўкамы надзялялі беззямельных і малазямельных сялянаў зямлёю з абшарніцкіх маёнткаў. Таксама выдавалі кароў тым, хто іх ня меў. Аднак часта старшынямі сельрэўкамаў станавіліся людзі малапісьменныя, да таго ж хцівыя, якія злоўжывалі сваім службовым становішчам. Гэтак, у вёсцы Зубелевічы старшынём стаў сквапны й прагны да нажывы чалавек. Ён пачаў папросту з рабаўніцтва і прысвоіў сабе 20 пудоў пшаніцы, якую гвалтам забраў у арандатара асадніцкага фальварку Костуся Саланевіча, сумленнага й працавітага чалавека. Саланевіч хацеў паскардзіцца ва "ўпраўленьне", але старшыня сельрэўкаму настрашыў яго Сібірам. Больш за тое, старшыня намякнуў Саланевічу, што, паколькі ягоная жонка была калісьці служанкаю ў асадніка, капітана легіянэраў, гэта таксама можа ягонай сям'і зашкодзіць. Урэшце Саланевіч ад скаргі адмовіўся. Гэткім чынам, "вызваліцелі", апроч усяго, прынесьлі з сабою ў Заходнюю Беларусь страх перад начальствам, закон сілы, карупцыю ды хабарніцтва. Перад польскім чынавенствам сялянства не адчувала страху, бо было фактычна незалежным матэрыяльна ад польскіх урадоўцаў. Ня ведалі заходнебеларускія сяляне і гэткай маральна разбуральнай зьявы, як "блат". Натуральна, узьнікае пытаньне, чаму польскія чыноўнікі і службоўцы не маглі заразіцца гэтымі "вірусамі"? Бо мелі службовыя заробкі, якія давалі ім магчымасьць утрымліваць сваю сям'ю ў поўным дастатку, а польскія законы сурова каралі за службовыя правіны ды яшчэ да таго існавалі ў польскім грамадзтве маральныя ўстоі, якія прывіваліся грамадзянам празь сям'ю, школу й касьцёл...

# СЯРОД АХВЯРАЎ АДНА ГРАМАДЗЯНКА БЕЛАРУСІ -- ЛЮДМІЛА БАГАЧОВА

МАСКВА Расейскае міністэрства аховы здароўя заявіла, што 117 закладнікаў загінула ў выніку штурму маскоўскага тэатру. Сярод іх – грамадзянка Беларусі Людміла Багачова. Галоўны доктар Масквы сёньня заявіў, што ўсе, акрамя аднаго закладніка, былі забітыя газам, які выкарыстоўвалі расейскія спэцслужбы для нэўтралізацыі захопнікаў. Упершыню афіцыйная асоба паведаміла прычыну сьмерці ахвяраў. Павялічваецца ціск на ўлады Расеі, каб яны абнародвалі дэталі пра выкарыстаны газ. Сотні былых закладнікаў застаюцца шпіталізаванымі, сёньня шпіталі пачалі іх выпускаць. Мэр Масквы Юры Лужкоў заявіў, што ў шпіталях сёньня 650 чалавек. Прэзыдэнт Расеі Ўладзімер Пуцін ухваліў апэрацыю штурму за выратаваньне жыцьцяў соцень закладнікаў і заявіў, што яна прадэманстравала: "Расею нельга прымусіць стаць на калені". Ён папрасіў сем'і тых, хто загінуў, дараваць уладам няздольнасьць выратаваць усіх.

**Уладзімір КУЛАЖАНКА,**
доктар эканамічных навук, прафесар

# Расійскі рубель -- магіла для Беларусі

Тое, што павышаюцца цэны, спыніўся рост нават намінальнай заработнай платы і пенсій, імкліва папаўзлі ўгору тарыфы на жыллё і транспартныя паслугі, востра хвалюе ўсіх. А вось дыскусія аб увядзенні ў абарачэнне ў Беларусі расійскага рубля, стварэнне нейкай саюзнай дзяржавы, людзей, здаецца, зусім не турбуе. Чаму? На мой погляд, яны проста не разумеюць, што ўвядзенне грошай чужой краіны можа моцна паўплываць на іх жыццё і лёс.

Знаходзяцца нават дарадцы, якія вітаюць расійскі рубель як магчымую сумесную валюту. Маўляў, ён дапаможа выйсці беларускай эканоміцы з глыбокай ямы эканамічнага крызісу.

Яма эканамічнага крызісу сапраўды пагражальная. Узровень зносу актыўнай часткі вытворчых фондаў у машынабудаўніцтве дасягнуў 82%, а ў падгаліне аўтамабільнага машынабудавання -- 86%. І гэта пры тым, што крытычны ўзровень зносу складае 60%. Толькі за апошнія 2--3 гады ўдзельная вага прамых замежных інвестыцый у эканоміку краіны знізілася з 4,2% да 1,6%. Сукупна гэтыя інстанцыі за апошнія 10 гадоў склалі 1,236 млрд. долараў, а ў суседняй Польшчы, напрыклад, 52,3 млрд. долараў, у Літве 2,4 млрд. долараў. І гэта пры тым, што 80% тых інвестыцый у нас складаюць укладанні расійскага "Газпрама" (985,2 млн. дол.) на будаўніцтва Ямала-Еўрапейскай газавай трубы, якое ў 2002 годзе замарожана.

Беларуская прамысловасць закрэдытаваная ўшчэнт. Лік ідзе на трыльёны рублёў (на 1 жніўня 2002 г. 10,7 трлн. рублёў). Бяда ў тым, што крэдыты прадпрыемствы бяруць не на інвестыцыі, а на абаротны капітал, 52,5% з іх пайшло на пагашэнне запазычанасцей па заработнай плаце. Пры гэтым прырост ВУП у значнай ступені ліпавы: на 1,3%, паводле афіцыйнай статыстыкі. Да таго ж ён абумоўлены прыростам нерэалізаванай прадукцыі. Пагаршаецца становішча на рынку працы. Няўхільна расце колькасць беспрацоўных. На сёння залішняй рабочай сілы не маюць толькі 8% прадпрыемстваў. Нялёгка прадпрыемствам утрымліваць такі баласт, цяжка зніжаць выдаткі вытворчасці, каб стаць канкурэнтаздольнымі. Непакой выклікае і тое, што непамерна расце колькасць служачых сярод занятых. Калі 6 год таму такіх было 17,2% сярод занятых у рэальным сектары, то зараз 22,3%. Атрымліваецца, як у той прымаўцы, адзін з сошкаю, а пяць з ложкаю. Тым больш, што падатковая нагрузка, дасягнуўшая 46,7% ад ВУП, ніяк не слабее. Па гэтай ды іншых прычынах адміністрацыйнага кшталту вельмі нізкі сярэдні паказчык рэнтабельнасці (9%) прамысловасці. 45 тысяч прадпрыемстваў (38% ад іх агульнага ліку наогул не маюць абаротных сродкаў, а астатнія толькі 12% ад патрэбнага.

Прыклады крызіснага стану эканомікі краіны можна прыводзіць і далей. Але досыць і прыведзеных, каб убачыць, у якіх цяжкіх умовах ідзе гульня у аб'яднаўчы працэс грашовага абарачэння.

Ёсць меркаванне, што частка высокіх і сярэдніх чыноўнікаў разлічваюць на тое, што шляхам аб'яднання грошай значная частка цяжару па выхадзе з крызісу будзе перакладзена на расійскую эканоміку, альбо віна за адставанне пяройдзе на суседзяў. Нязбытныя гэтыя надзеі па многіх прычынах. Расія сама адсталая краіна. Валавы ўнутраны прадукт вялікай Расіі ў 12 разоў меншы за ВУП Японіі. Нават на Тайвані выпрацоўваюць прадукцыі больш, чым у Расіі. Расія такая ж адсталая краіна, як і Беларусь, і трымаецца толькі на паліўнай трубе, якая не вечная.

Калі некаторыя мараць уцягнуць Беларусь у расійскую імперыю перш за ўсё праз увядзенне адзіных грошай, то сапраўдныя патрыёты папярэджваюць нацыю аб магчымай бядзе.

Так, доктар фізіка-матэматычных навук Міхаіл Кавалёў чамусьці лічыць, што плаваючы валютны курс для беларускага рубля не прыдатны. Выйсце адно: альбо адмовіцца ад самастойнай грашовай палітыкі і зафіксаваць свой курс на якой-небудзь моцнай валюце альбо перайсці на чужую валюту. Разважанне можна прыняць, але чаму Беларусь павінна прымацоўваць сябе да расійскага рубля, а не да еўра ці долара -- не зразумела. Пры гэтым М.Кавалёў не лічыць расійскі рубель трывалым і, каб падтрымаць яго моц, рэкамендуе прымацоўваць рубель да еўра. Атрымліваецца, што мы не можам прывязацца непасрэдна да еўра, а толькі праз пасрэдніцтва хілага расійскага рубля.

Але на гэтым у сваёй канцэпцыі Міхась Кавалёў не ставіць кропку. Ён лічыць за лепшы варыянт -- пераход на расійскі рубель. Пры гэтым матэматык упэўнены, што "пераход на расійскі рубель нам (каму гэта "нам"? -- Аўт.) выгадны. Гэта стане надзейнай апорай для нацыянальнага суверэнітэту". Калі мець на ўвазе сённяшні варыянт, то гэта можа і так. Але рэальны пераход на расійскі рубель загубіць беларускую эканоміку. Не трэба ехаць у цэнтральныя расійскія губерні, каб пагледзець, як мы будзем жыць пасля інкарпарацыі. Варта зазірнуць на Смаленшчыну ці Браншчыну -- сённяшнія заходнія ўскраіны Расіі, якімі хутка можа стаць Беларусь, -- і ўсё стане зразумелым.

Пра які надзейны суверэнітэт можна гаварыць, калі пры ўвядзенні расійскага рубля будзе разбурана сістэма камерцыйных банкаў і для рашэння праблем крэдыту трэба прасіць дазволу Масквы. А галоўнае, хто будзе выдзяляць крэдыты, грашовыя рэсурсы для камерцыйных банкаў?

Эканаміст Валерый Дашкевіч справядліва лічыць, што пераход на расійскі рубель -- вялікі мінус для суверэнітэту і развіцця эканомікі, бо Расія ніколі не пойдзе на стварэнне двух эмісійных цэнтраў. А як быць тады з неабходнасцю эмісіі грошай? Паводле навуковай тэорыі, іх колькасць павінна павялічвацца пры росце вытворчасці грамадскага прадукту, крыху адстаючы ад гэтага росту. Калі будзе ўведзены адзіны рубель, то хто (Масква ці Мінск) будзе сачыць за гэтай заканамернасцю? І якой будзе палітыка рэфінансавання, дарэчы, нядрэнна асвоеная сёння Нацыянальным банкам Беларусі?

Прыхільнікі ўвядзення ў Беларусі расійскага рубля не могуць прывесці колькі-небудзь станоўчы прыклад працвітання краін, якія ўвялі чужыя грошы. Чамусьці забываюцца спаслацца на вопыт прыбалтыйскіх краін, якія сталі на шлях паспяховага развіцця на аснове ўласных грошай, хоць гэтыя краіны, разам узятыя, роўныя Беларусі.

Але ёсць яшчэ адзін гістарычны прыклад, які ставіць тоўсты крыж на ўсіх канцэпцыях грашовых інтэгратараў. Агульнавядома, што ў Японіі пасля другой сусветнай вайны сярод фінансістаў і палітыкаў утварыліся дзве групы: адна стаяла за ўвядзенне долара, другая (патрыятычная) за ўмацаванне іены. Перамагла другая, і мы бачым сёння Японію другой краінай свету па эканамічным развіцці. Каб быў уведзены долар, краіна згубіла б самастойнасць, была б вымушана ўсё ўзгадняць з краінай-эмітэнтам, губляючы на гэта шмат часу і сіл. У выніку Японія ніколі не стала б такой магутнай, як сёння.

Проста здзекам гучаць развагі Міхаіла Кавалёва адносна таго, што эмісія грошай толькі ў Маскве выгадная для Беларусі. Маўляў, усе сённяшнія валютныя запасы Нацыянальнага банка Беларусі можна скарыстаць не на падтрыманне валютнага курса беларускага рубля, а на набыццё абсталявання і інвестыцый. Апякаць рубель будзе Цэнтральны банк Расіі. Але пры гэтым Беларусь згубіць усялякую самастойнасць.

Не трэба быць вялікім разумнікам, каб ведаць: калі Беларусь пазбавіцца сваіх грошай, яна пазбавіцца суверэнітэту, самастойнасці. Нам гэта трэба?

А калі некаму гэта трэба, то ўсе ведаюць, як такіх людзей называюць.

^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^

## ДЗЬВЕ ТРЭЦІ МАЛАДЫХ БЕЛАРУСАЎ МАЮЦЬ ЖАДАНЬНЕ ЭМІГРАВАЦЬ З КРАІНЫ

Паводле дадзеных апытаньня грамадзкай думкі, праведзенай Незалежным інстытутам сацыяльна-эканамічных і палітычных дасьледаваньняў (НІСЭПД), 34,7% беларусаў чакае ў будучым пагаршэньне сацыяльна-эканамічнай сытуацыі, у той час як надзеі на лепшае захавалі ўдвая менш людзей (16,9%). Для маладога пакаленьня песімізм яшчэ больш характэрны: 41% апытаных ва ўзросьце 18-29 гадоў упэўненыя ў ў пагаршэньні сытуацыі і толькі 10,2% захоўваюць веру ў паляпшэньне. Вынік гэтага – жаданьне эміграваць з краіны. Калі сярод усіх апытаных 38,3% маюць жаданьне пераехаць за мяжу на СМЖ, то сярод тых, каму 18-29 гадоў – ужо 63,4%.

^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^

# Яшчэ адна цагліна ў падмурак

Прэзэнтацыя бібліяграфічнага даведніка "БЕЛАРУСКІЯ СЛОЎНІКІ Й ЭНЦЫКЛЯПЭДЫІ" адбылася 9 кастрычніка ў Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі. RR наведала імпрэзу й пагутарыла з суаўтарам новага выданьня - Зьмітром Саўкам.

**RR:** - Вядома, што вы займаецеся рознымі аспэктамі беларусістыкі. Чаму менавіта бібліяграфія слоўнікаў?

**З.С.:** - Беларускае грамадзтва вычувае востры дэфіцыт у даведкавай літаратуры. Нацыя, якая хацела б чуцца паўнавартаснай удзельніцаю гуманітарнага працэсу патрэбныя тысячы й тысячы розных даведнікаў, энцыкляпэдыяў, слоўнікаў. Бібліяграфія - гэта кніга пра кнігі, своеасаблівы каталёг ведаў, закумуляваных на паперы, гэта канцэнтрат інфармацыі.

-- Апроч Вашага імя на вокладцы стаіць імя Вітаўта Кіпеля...

-- Мой суаўтар - дырэктар Беларускага інстытуту навукі й мастацтва дактар Вітаўт Кіпель - і быў ініцыятарам стварэньня гэтай бібліяграфіі. І нездарма, бо ён - прафэсійны біліёграф, шмат год прарабіў у Нью-ёрскай публічнай бібліятэцы на адказных пасадах. А пачатковую картатэку ён пачаў складаць яшчэ ў канцы 1950-х, калі яго запрасілі да ўдзелу ў працы над фундамэнтальнай бібліяграфіяй славянскіх слоўнікаў. Праз шмат гадоў, калі картатэка значна вырасла, у 1997 годзе ён запрасіў да супрацы мяне.

-- Каму, на Вашу думку, найперш прыдасца гэтая кніга?

-- Патрэбу ў такім выданьні, у шырэй - у падобнай літаратуры наагул маюць ня толькі беларусазнаўцы, гуманітары, але таксама й прадстаўнікі дакладных і натуразнаўчых навукаў, выкладчыкі, студэнты: у даведніку сабраныя зьвесткі пра сотні тэрміналягічных слоўнікаў і спэцыяльных энцыкляпэдыяў у галіне фізыкі, матэматыкі, батанікі, заалёгіі, хіміі ды г. д.

-- На прэзэнтацыі прагучала думка адмыслоўцаў, што Ваша бібліяграфія нечым адметная ад працаў адпаведнага профілю, што дагэтуль выходзілі ў Беларусі.

-- Складаючы бібліяграфію, мы арыентаваліся не на расейска-савецкую традыцыю, а на брытанска-амэрыканскія падыходы, найперш у разуменьні самога панятку "слоўнік". Да таго ж, мы дадалі да каталягічнае часткі 7 розных паказьнікаў. Таму інфармацыю пра пэўныя слоўнікі можна "выцягнуць" зь бібліяграфіі праз прозьвішча аўтара, месца й год выданьня, тэматыку, мову (калі слоўнік перакладны) й г.д. Да таго ж мы пастараліся закаталягізаваць ня толькі выдадзеныя слоўнікі, але й рукапісныя.

-- Прэзэнтацыя адбылася, у залі не хапалася крэслаў для усіх, хто прыйшоў на імпрэзу. Сярод гасьцей можна было заўважыць праф. Генадзя Цыхуна, першага беларускага амбасадара ў Нямеччыне Пятра Садоўскага, старшыню ТБМ Алега Трусава...

-- Я рады, што выхад кнігі не застаўся незаўважаным. Было й шмат незнаёмых мне людзей, студэнтаў. Відаць, вабіць людзей на такія імпрэзы момант крэатыўнасьці ў такіх падзеях, як зьяўленьне беларускай кнігі, выхад музычнага альбома... У сёньняшняй сытуацыі нам толькі й застаецца што ствараць. Думаю, гэта не найгоршы занятак для міжчасься.

**************************************************

## Зноў пад савецкім сьцягам?

7 лістапада ў Віцебску адбылася гістарычная, так бы мовіць, падзея, якая па-рознаму будзе ўспрынята многімі людзьмі. На 5 лістапада намечана перайменаванне 317-й гвардзейскай асобнай мабільнай брыгады. Перайменаванне не першае і, магчыма, не апошняе.

На працягу існавання СССР гэтая воінская часць была 103-й гвардзейскай паветрана-дэсантнай дывізіяй, на шляху якой нямала баявых заслуг. Але слоў з песні не выкінеш.

Менавіта віцебская дывізія ВПВ адной з першых увайшла ў Афганістан і атрымала дыслакацыю ў Кабуле. Пэўны час дывізіяй камандаваў Герой Савецкага Саюза павел Грачоў, які ў 1991 годзе стаў міністрам абароны Расіі. Тут пачынаў сваю бліскучую кар'еру генерал і палітык Аляксандр Лебедзь, які да сваёй трагічнай смерці ўзначальваў адміністрацыю Краснаярскага краю. Словам, з дывізіяй звязаны многія буйныя военачальнікі Расіі і Беларусі.

У суверэннай Беларусі паветрана-дэсантныя сілы сталі ўваходзіць у склад мабільных сіл, і віцебская дывізія пераўтварылася ў 317-ю гвардзейскую асобную мабільную брыгаду. Цяпер яе зноў чакае пераўтварэнне, хоць і не карэннае, а тытульнае.

Нядаўна міністр абароны Беларусі генерал-палкоўнік Леанід Мальцаў (вядома, пасля ўзгаднення з прэзідэнтам) падпісаў загад аб перайменаванні брыгады з вяртаннем ёй папярэдніх тытулаў. З лістапада яна, застаючыся ў Віцебску і ў складзе беларускага войска, будзе называцца так: 103-я гвардзейская асобная мабільная ордэна Леніна чырванасцяжная ордэна Кутузава II ступені брыгада імя 60-годдзя СССР.

Вось так! Засталося толькі запрасіць на ўручэнне брыгадзе старога сцяга прэзідэнта Ул.Пуціна!

**************************************************

## Сродкі на будаўніцтва Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі працягваюць паступаць

Пра гэта паведаміла журналістам дырэктар галоўнай бібліятэкі краіны Галіна Алейнік на прэс-канферэнцыі ў Нацыянальным прэс-цэнтры Рэспублікі Беларусь.

Па стану на 16 кастрычніка на рахунак паступіла больш за 2 млрд. 483 млн. рублёў, больш як 26 тыс. еўра і больш за 7 тыс. долараў. Паводле слоў Галіны Мікалаеўны, літаральна з кожным днём павялічваецца колькасць наведвальнікаў бібліятэкі. Зараз Нацыянальная бібліятэка краіны абслугоўвае ў сярэднім 1850 чытачоў у дзень.

^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^

# REVIEWS

Pashkevich, Ales'. *Zvarotnyia darohi: Proza belaruskai emihratsii XX stahoddzia.* Belaruskae litaraturnae ab'ednanne, Białystok, 2001. 238 pp. Index. Price unknown.

BELARUSIANS have been far less inclined to emigrate from their country than, for instance, Russians and Poles, but the Belarusian emigration, too, was sufficiently numerous and intrinsically interesting to provide a valid field for research. Indeed, the last few years have seen a markedly increased interest in the history and literary activities of the Belarusian emigration, both in Belarus itself and in some of the places where the émigrés found new homes in the middle of the last century. In part, this may be attributed to the relatively recent possibility of Belarusian scholars consulting Western publications and archival materials, and partly to the fact that the émigré communities themselves, strengthened by a new generation, have responded actively to the challenge of collecting and publishing scattered materials before they are irretrievably lost.

Ales' Pashkevich, a lecturer at Minsk State University, is known as a poet and historical novelist as well as a scholar with a strong interest in emigration. The present book will undoubtedly serve a valuable purpose in advancing knowledge of Belarusian émigré prose — for so long a taboo subject — to students and others in Belarus itself. At a time when the Belarusian government seems, at best, ambivalent towards the poets and writers of the emigration, it serves as a reminder of the ongoing valuable co-operation between Poland and Belarus (particularly in an eastwards direction) that this enterprising study was published in the ethnically Belarusian territory of eastern Poland.

The book begins with an overall survey of the emigration from Belarus between 1918 and the 1990s, and of the groups and publications that resulted, as well as of the principal protagonists. In the second introductory chapter the author addresses the question of twentieth-century Belarusian literature as a discreet historical and cultural entity.

Like many Slav and other emigrations, the Belarusians, most of whom left Belarus at the end of World War Two, were anxious to correct the distortions and omissions imposed on their historical traditions. Thus, it is not surprising that one of the two central sections of the study is devoted to historical prose, beginning with the period associated with the first modern historian of Belarus, Vatslaŭ Lastoŭski. After some reflections on the significance of historical prose for his country, Pashkevich goes on to discuss Lastoŭski's own works written in emigration and the tradition he established. Three other writers are highlighted: Pauliuk Viadziorny (better known, in this country, where he lived, as Paul Urban); Uladzimir Sluchanski and his ambitious historical novel *Draby*, which Pashkevich considers to be the most important and readable example of historical fiction written in emigration; and the prominent critic and oppositional publicist Iurka Vits'bich.

The other main section of the book is devoted to memoir literature and autobiographical prose. After a general survey of the field, the author discusses nine writers individually: Viktar Val'tar and his unknown novel of the 1920s, *Rozhdanyia pad Saturnam*; the memoirs of celebrated dramatist Frantsishak Aliakhnovich; 'novels' such as *Vialikiia darohi* by Uladzimir Siadura-Hlybinny (also known as the Dostoevskii scholar, Vladimir Seduro), Kastus' Akula's *Zmaharnyia darohi*, and Aŭhien Kalubovich's *Na kryzhovai daroze*; Akula's wartime trilogy, *Haravatka*; the life and fate of Mikola Tselesh; the prose of outstanding poet Masiei Siadnioŭ; and, finally, the creative writing of memoirist Aliaksandra Sakovich.

A third, far shorter section treats two examples of satirical prose: the 'diaries' of Liavon Savionak, and the story 'Tryvoha' by the leading critic and scholar Anton (Anthony) Adamovich.

In his conclusion, Ales' Pashkevich rightly asserts the position of émigré Belarusian prose as a fitting and necessary component of the general literary context of his country. In producing this thoroughly researched and well organized study he deserves congratulations on having performed an undoubtedly worthwhile task. The book will be of value to all concerned with Belarusian cultural history and, indeed, those with a more general interest in the troubled literary process of Eastern Europe and its emigration during the troubled last century. It deserves a place in all libraries with Slavonic collections.

*School of Slavonic and East European Studies* ARNOLD MCMILLIN
*University College London*



Bich, Mikhas', et al. *Histarychny shliakh belaruskai natsyi i dziarzhavy / The History of the Belarusian Nation and State.* Belaruski knihazbor, Minsk, 2001. 208 pp. Figures. Maps. Illustrations. Price unknown.

THIS bilingual book, produced by the late Mikhas' Bich and a large collective of authors, has an immensely ambitious and important purpose: it is an attempt by the International Association of the Belarusian People 'Batskaushchyna' (The Fatherland) to remind the beleaguered Belarusian people of their birthright and historical heritage. Lavishly illustrated, it is an attempt to counter the indifference and ignorance prevalent amongst a significant portion of the Belarusian population which has been fostered for centuries by a series of foreign powers, notably Poland and Russia, and, at the present time, by a leader, often described as Europe's last dictator, who appears to associate national aspirations as a threat to his own position.

In this unhappy situation, where the national symbol of the 'Pahonia' (from the seal of the Grand Duchy of Lithuania) is banned, and where the national white-red-white flag has been replaced by the red and green of communist times, the popularization of national history has been a priority for émigré scholars and writers, as also for many writers in metropolitan Belarus, most prominently Uladzimir Karatkevich (1930–84) and Uladzimir Arloŭ (b. 1953), the latter heading the collective of editors. This book offers an illustrated encyclopaedic summary of more than a thousand years of Belarusian history. The preface, described as an 'Address to the Belarusian People', ends with the stirring words, 'So now, at the turn of the millennium, let us review our great historical inheritance, discover, and establish who we are — the People of Belarus' (p. 4).

After a review of nation, statehood and culture, there is an analysis of the state of Belarus at the turn of the millennium. This is followed by a long section of 'Papers and Documents' (pp. 61–121), 'The History of Belarus in Tables and Diagrams' (pp. 121–36), 'Political Leaders and Senior Statesmen in the History of Belarus' (pp. 137–42), 'Belarusian National Symbols' (pp. 144–47), the 'History of Belarus in Maps' (pp. 148–58), the 'Belarusian Diaspora' (pp. 159–63), 'Belarusian Songs and Anthems' (pp. 164–69), and a 'List of Major Events and Dates in the History of Belarus in Chronological Order' (pp. 170–89). The book ends with a statement of the 'Programme "Belarus-2000"' (pp. 190–99) and, finally, of 'The Belarusian National Public Organizing Committee "Belarus-2000"' (pp. 200–03 — this section alone is given only in Belarusian). Incidentally, it may be noted that well over a hundred full-page illustrations are unnumbered, so that the book is considerably more substantial in size than the pagination implies.

Many people in the West know little about Belarus, apart from the activities of its leader and the Chernobyl disaster. This necessary popularizing book, therefore, should be in all Western libraries with Slavonic collections as well as, and perhaps more importantly, in every Belarusian school and institution of higher education. Regrettably, the print-run of a mere 700 copies renders this quite impossible. It is very much to be hoped that a second edition will soon be forthcoming, and that political circumstances within Belarus will allow it to be distributed as widely as it undoubtedly deserves.

*School of Slavonic and East European Studies* ARNOLD MCMILLIN
*University College London*

Фрагмент выступлення вядомага паэта Генадзя Бураўкіна на нядаўнім нечарговым зьезьдзе Саюза беларускіх пісьменнікаў.

# Як бы хто ні каркаў...

...Давайце не будзем хітраваць адзін перад адным, адкінем шалупінне фальшывага пафасу і дыпламатычных фармулёвак і скажам у рэшце рэшт, што галоўная прычына і сутнасць усіх канфліктаў і рознагалоссяў у пісьменніцкім асяродку не ў розніцы мастацкіх крытэрыяў, не ў процілегласці арыентацыі -- на Захад або Усход, а ў адносінах да лёсу нацыянальнай дзяржавы, а адсюль і ў стаўленні да ўлады, якая гэтай дзяржавай кіруе.

Для шматлікіх чыноўнікаў і "славянасабораўцаў" Беларусь -- паняцце перш за ўсё геаграфічнае і службовае. Яна для іх -- месца працы ці камандзіроўкі, даволі выгадная пляцоўка для вырашэння глабальных, часта адкрыта імперскіх, эканамічных ці палітычных задач. Вось і вернуць яны свае насы і намаганні ад мовы, гісторыі і культуры беларусаў, бо якраз тут найбольш відавочна і поўна выяўляюцца наш нацыянальны характар і наша адметнасць у свеце. Мне смешна сёння чытаць у салідных афіцыйных газетах, што, аказваецца, усе восем апошніх гадоў найвышэйшыя асобы краіны толькі тым і займаліся, што няспынна мацавалі суверэнітэт і аўтарытэт Беларусі. Што -- і тады, калі на шматкі дралі наш гістарычны сцяг, і тады, калі зачынялі беларускія школы, якіх, як ім падалося, развялося ў пачатку дзевяностых гадоў залішне многа, і тады, калі перапісвалі Канстытуцыю пад аўтарытарныя густы, і тады, калі з дня ў дзень, без перапынку дурылі галовы даверлівым суайчыннікам прыгожымі казачкамі пра адзіную саюзную дзяржаву, дзе будзе -- гэта ж трэба дадумацца! -- ажно два, а можа, і ўсе тры суверэнітэты, тры прэзідэнты, тры сцягі і тры гімны?.. Мне крыўдна і няёмка сёння глядзець па тэлевізары на людзей, што, прыціскаючы рукі да сэрца, ледзь не з патрыятычнымі слязамі на вачах лемантуюць за незалежнасць, лёгка адкінуўшы іхнюю ж любімую фармулёўку пра саюзную дзяржаву і гаворачы толькі пра саюз.дзяржаў... А я ж памятаю, я не магу забыць, як яны душылі ініцыятыву склікання Усебеларускага з'езда за незалежнасць, як абвінавачвалі яго арганізатараў ледзь не ў нянавісці да вялікага рускага народа і яго выдатнай культуры... Не веру я іхнім гучным словам, бо не бачу іхніх канкрэтных дзеянняў, наадварот: адменены ў школах экзамен па беларускай літаратуры, пашырана расійскамоўная інфармацыйная прастора за кошт выпускаў навін так званага АНТ і звужана магчымасць выхаду да чытачоў самых выдатных і славутых нашых пісьменнікаў у выніку "касцянізацыі" рэдакцый усіх нашых літаратурных часопісаў...

Нехта з чыноўных гасцей, відаць, паблажліва зморшчыўся: ну вось, зноў пра мову. Так, зноў. Бо яна для нас, літаратараў, не толькі душа роднага народа, а і наш рабочы інструмент, не толькі святая малітва, а і зямная пакута. Ды і для палітыкаў мова -- не абы што, не нейкая неістотная дробязь. Калі хто не знаёмы з "запаветам" губернатара Паўночна-Заходняга краю, сумнавядомага Мураўёва, працытую адзін з яго лістоў: "У Паўночна-Заходнім краі так званую беларускую мову неабходна звесці на нішто, бо, калі гэтага не зрабіць, яна пастаянна будзе інспіраваць думку аб асобным беларускім народзе і аб праве гэтага народа на этнічную самастойнасць і нацыянальна-дзяржаўную суверэннасць, чаго допусціць нельга". Вось так -- проста, ясна, дакладна, нават надзённа... Так што карані нашага размежавання якраз тут, у гэтым туга сцятым вузле, у якім сыходзяцца дзяржаўныя, палітычныя і асабістыя інтарэсы многіх і многіх у нашай краіне...

Генадзь Бураўкін.

*****************************************************

## Чатыры залатыя медалі з Амерыкі

БелаПАН

Аляксандра Шкурдода, 10-гадовая школьніца з вёскі Расна Камянецкага раёна Брэсцкай вобласці, заваявала 4 залатыя медалі на Сусветным чэмпіянаце выканальніцкіх відаў мастацтваў, які з 2 па 14 кастрычніка праходзіў у Лос-Анджэлесе (ЗША). Як паведаміла кіраўнік дзіцячага ўзорнага калектыву эстраднага танца «Непаседы» Ларыса Нічыпарук, у чэмпіянаце бралі ўдзел прадстаўнікі 17 дзяржаў свету. У сваёй узроставай групе (5—16 гадоў) А. Шкурдода заваявала вышэйшыя ўзнагароды ў намінацыях «акрагімнастычны танец», «лірычны танец», «фотамадэль» і «дэманстрацыя вячэрніх сукенак». «Мы верылі, што пераможам, нягледзячы на тое, што ўдзельнікаў было 400 чалавек, — зазначыла Ларыса Нічыпарук. — Пасля перамог Сашы паступіла шмат прапаноў аб працы, у тым ліку і з ЗША».

# Саюз пісьменнікаў: дзеля чаго ён патрэбен?

**Ніл ГІЛЕВІЧ** (Народная Воля)

Так, сапраўды, дзеля чаго ён патрэбен -- і самім пісьменнікам, і грамадству, і дзяржаве, калі дзяржава стаіць на абароне нацыянальнай літаратуры, культуры, духоўнасці? Дзеля чаго -- гэта сфармулявана ў Статуце СП. Галоўнае -- абараняць прафесійныя правы літаратара, у тым ліку -- права на свабоду творчасці, галоўнае - - думаць і клапаціцца пра лёс роднай літаратуры і як яе не даць у крыўду, бо няма ў краіне іншай арганізацыі ці ўстановы, дзе б так ведалі, што такое ў жыцці грамадства літаратура і што ёй патрэбна, каб яна выконвала сваю гістарычную місію, як гэта ведае Саюз пісьменнікаў. У нас многія блытаюць прызначэнне, функцыі, ролю СП з высакароднымі абавязкамі Літара- турнага фонду. Гэтых важных абавязкаў -- дзесяткі, дазвольце іх не пералічваць. Але зблытваць Саюз пісьменнікаў з Літфондам -- не трэба, у СП -- сваё высокае прызначэнне. Некалькі прыкладаў з гісторыі рускай савецкай літаратуры.

Калі пайшоў з жыцця выдатны, вялікі паэт Барыс Пастэрнак, "Литературная газета" паведаміла: памёр член Літфонду Б.Л.Пастэрнак. Член Літфонду, а не член СП СССР, бо з СП ён быў выключаны -- за творчасць, за бяскрыўдны раман "Доктар Жывага", за тое, што ён скарыстаў права распараджацца сваёй творчасцю, за ўзнагароду ягонай творчасці Нобелеўскай прэміяй. Гэта была ганьба на ўвесь свет -- вялікі паэт пайшоў з жыцця затраўлены, замучаны, аплеваны. А што ж СП СССР, дакладней -- яго кіраўніцтва, яго Рада? А памагала Партыі, Ураду травіць і бэсціць паэта. Дык дзеля чаго патрэбен грамадству Саюз пісьменнікаў? Не Літфонд, падкрэсліваю, а Саюз пісьменнікаў.

У 1946 годзе былі выключаны з СП СССР вялікі паэт Ганна Ахматава і бліскучы сатырык Міхаіл Зошчанка. Пазбаўленыя права друкаваць і выдаваць свае творы, жылі галадаючы і прымалі ад сяброў -- употайкі -- хоць нейкія грашы, каб выжыць. Саюз пісьменнікаў нават не паспрабаваў іх абараніць. А яны ж не былі ворагамі, былі абсалютна лаяльнымі грамадзянамі Савецкай Краіны. Дык дзеля чаго Саюз пісьменнікаў? Скажаце: гэта было яшчэ пры Сталіне! Так, вядома, пры Сталіне. Ну, а хто сказаў, што са сталінізмам у былых рэспубліках СССР пакончана і нават духу яго не засталося.

Выгналі за межы СССР Аляксандра Салжаніцына -- за праўдзівыя кнігі, за тое, што сказаў "нельзя жить во лжи" і што вялікая ганьба для пісьменніка -- заплюшчваць вочы на стан рэчаў і падтрымліваць татальную хлусню ў краіне. І што ж? Кіраўніцтва СП СССР спярша выключыла Салжаніцына з Саюза, а затым горача падтрымала выгнанне яго з Радзімы. Дык для чаго Саюз пісьменнікаў? Каб памагаць дзяржаве распраўляцца з талентамі?

У Аляксандра Твардоўскага ЦК КПСС адабраў "Новый мир", пасля чаго вялікі паэт неўзабаве і памёр -- не перанёс знявагу і крыўду. Адабралі ў яго часопіс на радасць шэрым пісакам і разбойнікам ад літаратуры. "Новым миром" Твардоўскага Расія будзе ганарыцца ў стагоддзях. Але ж гэту ганебную расправу з паэтам і яго часопісам падтрымала кіраўніцтва СП СССР!

Дык для чаго, запытаемся зноў, патрэбен Саюз пісьменнікаў? Для таго, каб спрыяў развіццю сапраўды таленавітай, праўдзівай, мужнай літаратуры -- ці для таго, наадварот, каб тармазіць гэтае развіццё? Знішчыць найлепшы часопіс, а заадно і яго рэдактара -- гэта клопат пра вялікую літаратуру, пра росквіт мастацкага слова? Скажаце: дык гэта ж было пры Брэжневе і Суславе! Так, вядома. Ну, а хто сказаў, што вульгарная брэжнеўская салдафоншчына і суслаўскія "палачкі Коха", што ўводзіліся ў жывы арганізм літаратуры, больш ужо нам не пагражаюць? Дык для чаго існуе і павінен існаваць Саюз пісьменнікаў?

Калі мы не будзем помніць, якая страшная крывавая разня адбывалася ў беларускай літаратуры ў 30-я гады, колькі таленавітых паэтаў і пісьменнікаў склалі галовы -- дык а што мы тады павінны помніць з гісторыі нашай літаратуры і нашага Саюза? І ці будзем думаць, чаму гэтая трагедыя мела месца, і з чаго пачыналася, і якая ў гэтым роля саміх пісьменнікаў? Ці заплюшчым вочы на тое, што раней чым быў арыштаваны і сасланы ў ссылку светлай душы паэт і сын Беларусі Язэп Пушча, у рэспубліканскай газеце быў апублікаваны крываэжэрны артыкул сябра пісьменніцкай арганізацыі (БелАПП) пад загалоўкам "Пушча -- не наш!". Не наш -- і ўсё! І на 26 гадоў Язэп Паўлавіч быў выкінуты з літаратуры. На шчасце, застаўся жывы. Я згадаў пра лёс Язэпа Пушчы, а такіх жа і больш трагічных лёсаў -- дзесяткі, дзесяткі, дзесяткі!

Нядаўна адзін надзелены ўладай літаратурны чыноўнік кінуў заклік не друкаваць у часопісах і газетах Васіля Быкава і яшчэ чатырох пісьменнікаў -- як "палітычна непісьменных". Не як бяздарных графаманаў, што было б натуральна, бо і праўда -- навошта графаманаў друкаваць, а як палітычна непісьменных. Скажыце, хіба гэта не той самы вердыкт "Пушча -- не наш!"? І які ж будзе крок наступны? Выкідваць з бібліятэк кнігі гэтых "палітычных непісьменных"? А затым і саміх іх -- з жыцця?

Паважаныя спадарыні і спадары! Гаварыць пра гэта крайне непрыемна. Але -- неабходна. У гэтым не было б патрэбы, калі б дзяржава належным чынам рэагавала на падобныя выпады і засведчыла, што яна сапраўды стаіць на абароне нацыянальнай літаратуры і стварае ўмовы для нармальнай жыццядзейнасці Саюза, для творчай працы пісьменнікаў. Прыемна гаварыць іншае: давайце, сябры, прыйдзем да ўзаемаразумення і не дапусцім расколу! Ну давайце! Канешне ж лепш, каб Саюз быў адзіны і быў цесна з'яднаны адным, галоўным для ўсіх нас клопатам. Якім -- я думаю, вы ўсе разумееце. Як і 20, і 30, і 40 гадоў таму, мы, беларускія пісьменнікі, знаходзімся ў асаблівым становішчы. Ні ў адной былой рэспубліцы былога СССР такога няма. Нідзе там не ўбачыш, каб так выганялася адусюль і душылася родная мова, каб так падсякалася пад корань адукацыя ў роднай мове, нават у базавых школах, каб у такую рэзервацыю была загнана кніга на роднай мове, каб так цынічна прыкрывалі фігавым лістком сорам -- перад сваім народам і перад усім светам.

Скажу з усёй шчырасцю: утварэнне гэтак званага холдынга "Літаратура і мастацтва" інакш не назавеш, як пагром. Чаму і нашто спатрэбілася вызваляць ад пасад -- без згоды СП -- рэдактараў літаратурных часопісаў? Хіба іх віна ў тым, што вельмі добра працавалі як рэдактары, надта дбайна клапаціліся пра таленавітую беларускую літаратуру? Дык жа "вялікая віна"! А як зразумець ліквідацыю выдавецтва "Юнацтва"? Гэта -- у клопатах пра развіццё літаратуры для дзяцей? Гэта, прабачце, дзяржаўны падыход да справы? Помню, як мы, пісьменнікі, доўга-доўга дабіваліся, каб гэтае выдавецтва было заснавана, каб забяспечыць дзяцей і моладзь добрай беларускай кнігай. І вось -- на табе! Камусьці можа не спадабацца маё меркаванне. Але -- а як быць, калі гэта праўда? І калі апраўдання гэтаму няма. Як паверыць, што дзяржава сапраўды дбае пра патрыятычнае выхаванне маладых пакаленняў? Патрыятызм -- без любові да роднай мовы?

Я чытаў артыкулы некаторых удзельнікаў перадзьездаўскай дыскусіі. Уражанне, што сёй-той усё яшчэ не зразумеў, якія велізарныя перамены адбыліся ў свеце, у гістарычным лёсе многіх краін і народаў, у тым ліку і ў лёсе Беларусі. Пішуць, што вось некалі СП БССР жыўпажываў хораша, зладжана, усім было добра і ўсе былі задаволеныя. Дарагія-паважаныя! Дык жа няма і не будзе той дзяржавы СССР, абсалютна бяспраўнай часткай якога была БССР, і няма і не будзе таго СП СССР, абсалютна бяспраўнай часткай якога быў СП БССР. Падкрэсліваю: абсалютна бяспраўнай! За мяжу беларускі пісьменнік мог з'ездзіць толькі з дазволу Масквы, прыняць замежных гасцей наш СП мог толькі з дазволу Масквы, нават выдаць збор твораў у Беларусі наша выдавецтва магло толькі з дазволу Масквы, -- і г.д. і г.д. Так што не варта ўздыхаць па мінулым, давайце глядзець наперад і зыходзіць з рэальнай гістарычнай сітуацыі. Мы пастаўлены ва ўмовы неймаверна цяжкія, і нам належыць вытрымаць экзамен на годнасць беларускага пісьменніка. Калі мы яго не вытрымаем -- свет увесь будзе смяяцца з нас.

Я знаёмы (па публікацыі ў "ЛіМе") з праграмай жыццядзейнасці СП, якую сцісла выклалі арганізатары З'езда. Там шмат разумнага, канструктыўнага, што неабходна будзе новаму кіраўніцтву СП і ўсім нам ажыццяўляць. Але ў дакументах З'езда акцэнт павінен быць зроблены на самым галоўным -- гэта лёс роднай літаратуры, лёс роднай мовы, лёс роднай краіны. Па-за гэтым клопатам існаванне Саюза пісьменнікаў проста траціць сэнс.

І апошняе -- у сувязі са сказаным аб тым, што ў жыцці краіны і народа адбыліся і будуць адбывацца далей радыкальныя перамены. Новы век, які пачаўся, -- не толькі каляндарна новы. Вялікая перабудова ўсяго і ўся і самога чалавека ў гэтым усім будзе працягвацца, і ашаламляльна хуткім тэмпам. Наўрад ці людзям пажылым за ёю ўгнацца. Моладзь адчувае ўсе гэтыя перамены лепш, непараўнана лягчэй у іх адаптуецца і хутчэй узбройваецца неабходнымі новымі тэхналогіямі асваення часу. І літаратуру XXI стагоддзя будуць ствараць маладыя -- гэта натуральна. Старыя будуць дарабляць недаробленае. Значыць, і адказнасць маладыя павінны браць на сябе ўжо сёння: талент ёсць, эрудыцыя ёсць, энергіі і сілы, дзякаваць Богу, пазычаць не трэба. І розуму, каб не ігнараваць досвед старэйшых, -- хопіць. Спадзяюся, што разуменне гэтага дапаможа нам зарыентавацца ў час выбараў кіраўніцтва Саюза.

P.S. З такім роздумам народны паэт Беларусі Ніл Гілевіч выступіў на нядаўнім нечарговым зьездзе пісьменнікаў Беларусі.

******************************************************

Паважаныя Чытачы!
Калі ласка, не забывыйце
Пераслаць грашовую ахвяру на
Выдавецкі фонд газэты…
Шукаем новых чытачоў і прыхільнікаў!

# Беларуская паэзія ў творчасьці Хаіма Ліўшыца

Выстава ў галерэі Lincoln Terrace (Першай беларускай) у чыкагскім прыгарадзе Скокі

Гэта невялікая, але вельмі зьмястоўная і эмацыянальная выстава была прысьвечана 90-годьдзю выдатнага беларускага мастака Хаіма Ліўшыца, (1912 – 1994), які чатыры апошнія гады свайго жыцьця жыў і працаваў у Чыкага. Сярод іншых значных карцінаў у нашым горадзе ён стварыў сваё вядомае вялікае манумэнтальнае палатно "Малітва ў Менску", прасякнутае паэзіяй, музыкай, філасофскім роздумам пра пакуты яўрэяў і іншых народаў у гады Другой сусьветнай вайны.

Але арганізатары гэтай выставы зусім не выпадкова аб'ядналі тэматычна гэту экспазыцыю з іншымі знамянальнымі датамі гэтага году: 120-годьдзем нашых выдатных паэтаў Янкі Купалы і Якуба Коласа і 115-й гадавіне з дня нараджэньня Марка Шагала, вялікага мастака XX стагодьдзя, які нарадзіўся ў Віцебску і пранёс праз усю сваю творчасьць незабыўныя вобразы роднай беларускай зямлі.

Хаім Ліўшыц нарадзіўся таксама ў славутым Віцебску, у горадзе, з якім звязана творчасьць многіх мастакоў, дзе нараджаліся многія стылі і накірункі ў выяўленчым мастацтве мінулага стагодьдзя. Дом бацькоў Хаіма Ліўшыца быў на той жа вуліцы Малой Пакроўскай, у пяці хвілінах хады ад таго дамка, дзе жыў Марк Шагал. У апошнія два гады жыцьця Хаіма Ліўшыца мне пашчасьціла часта бачыцца і гутарыць з ім, і я прыгадваю ягоны аповяд-успамін пра тыя гады. Маляваць ён пачаў рана. І вось аднойчы, – успамінаў Хаім Ліўшыц, – да іх дахаты прыйшоў мастак Меклер, сябра Шагала, паглядзеў ягоны малюнкі, адклаў некалькі і потым павёў яго да Віцебскага камісара па справах мастацтваў – такі мандат быў тады ў Марка Шагала. Майстра паглядзеў малюнкі, станоўча адазваўся і параіў абавязкова запісацца ў школу вядомага ў Віцебску мастака і педагога Ігуды Пэна, у якога ў свой час вучыўся сам Шагал і пранёс праз усё жыцьцё шчырую адданую любоў да свайго настаўніка.

Так Хаім Ліўшыц пачаў атрымліваць першыя прафесійныя ўрокі. Потым, пасьля сямігодкі, ён паступіў вучыцца ў Віцебскі мастацкі тэхнікум, дзе працягваліся традыцыі вучэльні, заснаванай Шагалам некалькі раней. І хоць творчая індывідуальнасьць Хаіма Ліўшыца складвалася пад уплывам рэалістычнай школы, мастаку заўсёды былі блізкія шагалаўскія кантрасты, яго захапленьне роднай зямлёй, своеасаблівае адухоўленьне, абогатварэньне яе.



«Янка Купала і яго муза»

Уплыў паэзіі Янкі Купалы і Якуба Коласа праходзіць праз усю творчасьць Хаіма Ліўшыца. Гэта перш за ўсё прыкметна ў пейзажах мастака, у яго падыходзе да пейзажу, у яго трапяткіх адносінах да гэтага жанру. Сам Хаім Ліўшыц неяк прызнаўся, што ягоныя пейзажы – гэта паэзія Купалы і Коласа ў фарбах, што яны напоўненыя любоўю да прыроды і людзей Беларусі. "Пільніца", "Вярба", "Рака Ісlач", "Ракаў", "Заслаўе", "Баравікоўшчына", "Завадзь", "Валоўшчына", "Пейзаж з конямі", "Дарога ў лесе", "Млын", – гэтыя і іншыя карціны, што экспануюцца на выставе, прыцягваюць увагу пранікнёным лірызмам і шчодрай жывапісасьцю, перадачай глыбіні прасторы і шматфарбнасьці натуры, мягкасьцю, маляўнічай дакладнасьцю і ўсхвалявасьцю кожнага мазка. Уважлівая перадача многіх дэталяў вельмі часта спалучаецца ў гэтых пейзажах з нечаканымі абагульненьнямі, экспрэсіўнай сымболікай. У прыцягненьні кожнай пейзажнай працы мастака –

нейкая загадка, хутчэй настальгічная, як яна ўспрымаецца намі сягоньня. Творчай манеры Хаіма Ліўшыца было ўласьціва і аб'ёмнае сьвятло, якое ішло нібы ад гледача, ад яго позірку.

Гледзячы на пейзажы Хаіма Ліўшыца, напісаныя мастаком і ў гады яго жыцця на радзіме, і тут, у Чыкага, міжволі ўспамінаюцца многія натхнёныя радкі Янкі Купалы, у тым ліку і гэтыя.

Я ад вас далёка, бацькоўскія гоні, –
На чужое неба ўжо гляджу сягоньня.
Але думкай, сэрцам толькі вас я знаю,
Як і жыў, жыву я ў сваім родным краю.
І няма на сьвеце так вялікай меры,
І няма на сьвеце так каваных дзьвераў,
Каб хоць на часіну ў будні ці ў нядзелі –
Беларусь са мною разлучыць пасьмелі!

Своеасаблівы цэнтр гэтай выставы – тэматычныя карціны Хаіма Ліўшыца, на якіх непасрэдна адлюстраваны вобраз Янкі Купалы. На адной з іх – "Янка Купала і яго муза" – вобраз паэты адначасова і партрэтна-канкрэтны, і крыху ўмоўны, абагулены. Прывабліваюць насычанасьць колеру, кантрасныя спалучэньні жоўтых, ліловых, зялёных таноў. Цікава, што вобраз музы тут пазбаўлены традыцыйнага рамантычнага арэолу, ён падкрэслена зямны, рэальны і ў той жа час лірычна-паэтычны. Другая, больш вядомая карціна называецца "Янка Купала і Кузьма Чорны ў Пячышчах, 1942 год". Адлюстравана сцэна, калі Кузьма Чорны спецыяльна прыязджаў наведаць Купалу ў гэтыя далёкія Пячышчы ў Татары, куды, як у зьняволеньне, заслалі падчас вайны нашага найвыдатнага паэта. Карціна Хаіма Ліўшыца трагічная па сваім настроі: мастак выкарыстоўвае цёмныя, прыглушаныя фарбы, у цэнтры – чорная пляма рэпрадуктара, настрой у персанажаў сумны, цяжкі. Уражвае перадача мастаком стану ўнутранага драматызму персанажаў. Магчыма, мой пункт гледжаньня суб'ектыўны, але я чытаю на твары Янкі Купалы на гэтай карціне прадчуваньне ім блізкай сьмерці. (Так і адбылося: месяцы праз тры пасьля



«Беларускі краявід»

адлюстраванага на палатне дня Купалы не стала; мае меркаваньні – ён паконччыў жыцьцё самагубствам. Чорны, між іншым, таксама памёр завельмі рана, у 44 гады, праз два гады пасьля той сустрэчы).

І побач на выставе зноў – пейзажы, нацюрморты, дзе гучыць хутчэй эпічны матыў, што ідзе ўжо ад паэзіі Якуба Коласа, ад менавіта гэтага паэта сьцьвярджэньня вечнасьці агульначалавечых маральных і духоўных ідэалаў на той шматпакутнай зямлі, дзе ён жыў і ствараў. Як узор, назаву карціну "Нацюрморт у садзе з яблыкамі", дзе адчуваецца і жывапіснае каларыстычнае майстэрства, і тонкае пачуцьцё прысутнасьці ў гэтую хвіліну, нібы саўдзелу ў тым, што адбываецца каля таго дамка, каля гэтага стала з глякамі і яблыкамі… Ну чым не інтанацыя, скажам, "Новай зямлі"?

Тут, у эміграцыі Хаім Ліўшыц так і не мог вызваліцца ад суму па роднай Беларусі. Улюбёны ў Беларусь, у яе прыроду, мастак, працуючы, нібы чуў натхнёныя галасы вялікіх паэтаў гэтай зямлі. Выстава ў Першай беларускай галерэі (Lincoln Terrace) ў Чыкага яшчэ раз падкрэсьлівае значэньне нацыянальнага культурнага кантэксту ў разуменьні прыроды і вытокаў творчасьці майстроў выяўленчага мастацтва.

**Ванкарэм Нікіфаровіч**, Чыкага, ЗША.

************************************************

# Наша моц – у яднаньні

### Пра ўдзел беларусаў у выставах і канцэртах у аэрапортах Чыкага

"Месячнік яднаньня" – так назвалі гэту сваю незвычайную ініцыятыву ў нашым горадзе Чыкагскі дэпартамэнт авіяцыі і Цэнтр узаемаабмену пры Чыкагскім Філд-музэі. Пачалася гэтая падзея сёлета адразу пасьля 11 верасьня, пасьля сумнай першай гадавіны ад дня страшэннага тэррарыстычнага акту на нашай амерыканскай зямлі. Арганізатары мерапрыемства імкнуліся падкрэсьліць неабходнасьць узмацніць у наш час адзінства людзей самых розных нацыянальнасьцяў, рэлігій і духоўнасьці, і перш за ўсё – людзей творчых, прадстаўнікоў мастацтва. Таму для ўдзелу ў "Месячніку яднаньня" былі запрошаны творцы з розных краінаў сьвету і прадстаўнікі некаторых этнічных групаў горада Чыкага.

Вялікія залі і прасторныя пераходы ў чыкагскіх аэрапортах "О'Хара" і "Мідвэй" сталі на гэты час мастацкімі галерэямі і канцэртнымі пляцоўкамі. Экспанаваліся працы многіх мастакоў розных жанраў і майстроў мастацкай фатаграфіі. Сярод гэтых твораў вылучаліся карціны прадстаўніка нашых чыкагоўскіх беларусаў мастака Дзмітрыя Башка, сьвятара Беларускай праваслаўнай царквы Сьвятога Юр'я. З ягонай мастакоўскай творчасьцю многія аматары жывапісу ў нашым горадзе азнаёміліся падчас леташняй выставы "Зямля пад белымі крыламі", дзе экспанаваліся працы аўтараў, што паходзяць з Беларусі. У сваіх новых вельмі цікавых палотнах, напісаных акрылавымі фарбамі, – "Папараць-кветка", "Пегас", "Музыка начы", "Ноч. Месяц. Бура", "З музыкай", "Беларускія дзяўчаты", "Усяночная ў Княгіне" – Дзімітры Башко працягвае свае традыцыйныя жывапісныя матывы з пошукамі новых формаў кампазіцыйнай і колернай выразнасьці.





Дзьве кампазыцыі айца Дзімітры Башко.

Па спецыяльных раскладах у аэрапортах "О'Хара" і "Мідвэй" у вялікіх залях ішлі канцэрты, падчас якіх выступалі музычныя і танцавальныя ансамблі і групы з Аўстрыі, Швецыі, Японіі, Ктіаю, Люксембургу, Швейцарыі, Ірляндыі, Калумбіі, Уругваю і іншых краін. Але два асобныя дні ў аэрапорце "Мідвэй" былі прадугледжаны для канцэртаў беларускага танцавальна-музычнага моладзевага ансамблю "Лянок", створанага пры Беларускай праваслаўнай царкве Сьвятога Юр'я. Абодва выступленьні ансмблю "Лянок" прайшлі з велізарнейшым посьпехам. Дзеля гэтых канцэртаў амаль цалкам была абноўлена праграма; выконваліся традыцыйныя беларускія танцы, гучалі народныя песьні. Шматлікія гледачы вельмі цёпла віталі маладых удзельнікаў групы Аліну Ступакевіч, Марыю Башко, Кацярыну і Ірыну Камаровых, Ірыну Севасьцьянаву, Ганну Васіленка, а таксама кіраўнікоў гэтага вельмі адметнага і яскравага калектыву Алену Ступакевіч і Ірыну Башко.

"У адзінстве – наша моц", "Станем сапраўднымі сябрамі", "Наш горад – горад добрых суседзяў", – гэтыя заклікі часта гучалі і ў размовах на выставах, і са сцэнаў





Танцавальна-музычны ансамбль "Лянок" з Чыкага, ЗША.

і ў залях канцэртаў у аэрапортах Чыкага. Гучалі як выраз імкненьня усіх людзей і ў Амэрыцы, і ў іншых краінах жыць у дружбе, сяброўстве, у міры, не дапускаючы духоўнай канфрантацыі, што асабліва неабходна зараз, пасьля таго леташняга трагічнага дня 11 верасьня.

* * *

# Сустрэчы са Станіславам Шушкевічам у Чыкага

У канцы верасьня ў Чыкага з кароткачасовым візытам пабываў Станіслаў Шушкевіч – вядомы палітычны і грамадскі дзеяч Беларусі, які сёньня ўзначальвае адну з буйнейшых у рэспубліцы апазіцыйных партый. У вялікай зале ОРТ-інстытуту, дзе звычайна зьбіраюцца эмігранты з рэспублік былога Саюзу, адбылася сустрэча са Станіславам Шушкевічам. "Ці стане Беларусь губерніяй Расеі?" – такая была тэма гэтай гутаркі.

Адбылася прэзентацыя новай кнігі Станіслава Шушкевіча, якая зусім нядаўна выйшла з друку, – "Нэакамунізм у Беларусі: ідэалёгія, практыка, перспектывы". Кнігу аўтар ня мог выдаць на радзіме; яна надрукавана ў Смаленску пры падтрымцы чыкагскага Фонду Джона і Кэтрын Макартураў. Асобныя разьдзелы гэтай вельмі цікавай і актуальнай працы ўпершыню друкаваліся сёлета ў чыкагскай расейскамоўнай газэце "Реклама".

Станіслаў Шушкевіч быў госьцем вядомай беларускай сям'і Веры і Вітаўта Рамукоў, а таксама выступіў у новай эміграцкай расейскамоўнай праграме па адным з каналаў чыкагскага тэлебачаньня.

*Ванкарэм Нікіфаровіч*, Чыкага, ЗША.

# Ян Новак-Езяранскі запрапанаваў стварэньне Радыё Свабодная Эўропа для Беларусі.

Ён ня выключае, што гэткую ролю магло-б выконваць Беларускае Радыё Рацыя зь Беластоку, якому пагражае закрыцьцё ў сувязі з фінансавымі праблемамі. Былы дырэктар польскай рэдакцыі Радыё Свабодная Эўропа сустрэўся ў Беластоку з прадстаўнікамі беларускай нацыянальнай меншасьці ў Польшчы і енімі муніцыпальнымі дзеячамі. Галоўным арганізатарам сутрэчы быў Цэнтар Грамадзянскай Адукацыі "Польшча-Беларусь". Паводле Яна Новака -Езаранскага, палітыка набліжэньня з суседзямі спрыччыняецца да рознага роду карысьцяў. " Цяпер Польшча мае нагоду дапамагчы Беларусі ў працэсе замацаваньня дзяржавы"- заявіў Езяранскі, дадаючы, што гаворка ня ідзе пра эфірную барацьбу з Лукашэнкам, але пра сапраўдную і аб'ектыўную інфармацыю. Ян Новак -Езяранскі згадзіўся, што гэткую ролю магло-б выконваць Радыё Рацыя зь Беластоку, але адначасова прызнаў, што ёй ня ведае праграмы згаданай радыёстанцыі. Прыгадваем, што Радыё Рацыя ўжо тры гады вяшчае, галоўным чынам, на тэрыторыі ўсходняй часткі Польшчы, дзе жыве найбольш Беларусаў. Аднак цягам апошняга часу радыёстанцыя змагаецца з сур'ёзнымі фінансавымі праблемамі, якія пагражаюць ёйным закрыцьцём. Галоўны рэдактар Радыё Рацыя Еўген Ваппа прызнаў, што ён раней нічога ня чуў пра прапанову Езяранскага, але ацэньвае згаданую ідэю вельмі станоча.

*Сьв. Памяці*



## Леанард НОРЫК

4-га ліпеня 1929 — 28 верасьня 2002

Беларускія могілкі Жыровіцкае Божае Маці ў Іст Брансвіку 3-га кастрычніка прынялі на вечны супачын сьв. пам. Леанарда Норыка, ведамага інжынера, сябру беларускіх арганізацыяў у ЗША.

Леанард Норык нарадзіўся ў Верасказе на Наваградчыне.Пачатковую асьвету здабываў у беларускіх школах на Бацькаўшчыне. У часе эміграцыі аконччыў тэхналягічны ліцэй у француззкай зоне ў Нямеччыне. У 1949 г. разам з бацькамі пераехаў у Амэрыку. У 1951 г. у часе Карэйскай вайны быў пакліканы ў амэрыканскую армію. Адбыўшы вайсковую службу паступіў на Мічыганскі Ўнівэрсытэт у Анн Арбор у штаце Мічыган і аконччыў з тытулам інжынера мэханіка. Ён быў выбраны ў ганаровыя інжынерскія арганізацыі Tau Beta Pi ды Pi Tau Sigma. У 1961 г. Леанард атрымаў тытул магістра па спэцыяльнасьці інжынера мэханіка пры палітэхнічным інстытуце Рэнсілэр.

Леанард Норык пачаў сваю інжынерную кар'еру ў 1957 г. у Прат і Вітні Аіркрафт, штат Канэктыкут, ведамай фабрыцы матораў для самалётаў. Тут ён працаваў 34 гады, адкуль выйшаў на пэнсію ў 1991 годзе зрабіўшы вялікую кантрыбуцыю для амэрыканскага лятунства. У 1976 г. ён атрымаў патэнты ў гэтай галіне.

Лёня, як яго называлі сябры, ажаніўся ў 1958 г. з Элеанорай (Кінусяй) Каханоўскай, унучкай Эмільлі Шабуня (роднай сястры Братоў Івана і Антона Луцкевічаў). Яны пражылі шчасьліва ў сужэнстве 43 гады.

Лёня любіў таварыскае жыцьцё. Апрача беларускіх арганізацыяў належыў да многіх мясцовых клюбаў, аб чым сьведчаць розныя ўзнагароды. У вольны час любіў займацца садаводствам.

Ён заўсёды дбаў ня толькі аб сваёй сям'і, але памагаў у патрэбе сваім сябрам, суседзям і супрацоўнікам. Наогул дэвізам ягонага жыцьця было: Чыніць людзям тое, што хацеў-бы мець для сябе. Аб гэтым сьведчыць тое, што ў мясцовае Пахавальнае Бюро і на памінкі прыйшло больш за сотню асобаў, у тым ліку ягоныя шэфы і супрацоўнікі з прадпрыества, сябры і суседзі. Развітальныя словы сказалі сын Віктар, зяць Мікалай Мултары і пляменьнік Юры Андрусышын.

У вялікім суме Леанард пакінуў жонку Элеанору, дачку Ніну з мужам Мікалаем Мул- тары, сына Віктара з жонкаю Мэры і ўнукамі Мэлісаю, Гэтэр і Кайлам, а таксама ў Беларусі брата Рамана з сям'ёю.

Абрад пахаваньня выканаў а. Вячаслаў з БАПЦ у Гайлэд Парку, Нью Джэрзі, а развы- тальнае слова і спачуваньне сям'і нябожчыка ад БАЗА выказаў Антон Шукелойц.

ВЕЧНАЯ ПАМЯЦЬ!

* * *

Заміж кветак на сьвежую магілу сьв. пам. Леанарда Норыка зважылі на выдавецкі фонд газэты:

1. Іван і Сьвятлана Марчэнка $30.oo
2. Броня Андрусышын $30.oo

Thank You.

*Антон Шукелойц*





Першы зьезд Беларускай моладзі ў Кліўлендзе, ЗША, у 1952-м годзе.

## ТБМ ЗАКЛІКАЕ АДНАВІЦЬ БЕЛАРУСКІ МУЗЭЙ у ВІЛЬНІ

Кіраўніцтва грамадзкага аб'яднаньня "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны" (ТБМ) заклікае дзяржструктуры і грамадаскасць Беларусі ўзяць удзел у аднаўленьні Беларускага музэю імя Івана Луцкевіча ў Вільні.

У звароце, што прыняты сакратарыятам ТБМ, зазначаецца, што 7 кастрычніка гэтага году камітэт Сейма Літоўскай Рэспублікі па адукацыі, навуцы і культуры прыняў гістарычнае рашэньне аднавіць дзейнасць у Вільні Беларускага музэю імя І.Луцкевіча як філіяла Літоўскага нацыянальнага музэю. "ТБМ вітае гэты крок, скіраваны на пашырэньне культурна-асьветных сувязей паміж беларускімі і літоўскімі народамі, якія заўсёды сябравалі і маюць сумесную спадчыну", - гаворыцца ў звароце.

Кіраўніцтва ТБМ выказвае спадзяванне, што міністэрствы замежных справаў і культуры Рэспублікі Беларусь станоўча адгукнуцца на гэтую ініцыятыву літоўскіх парлямантарыяў і дапамогуць аднавіць адзін з лепшых беларускіх музеяў першай паловы XX стагоддзя. Сакратарыят аб'яднаньня таксама заклікае творчыя саюзы Беларусі і прадстаўнікоў шырокай грамадскасці падтрымаць ініцыятара ідэі адраджэньня Беларускага музея ў Вільнюсе - "Таварыства беларускай культуры ў Літве" - і перадаць экспанаты з грамадзкіх фондаў і калекцый у экспазыцыю будучага музея. Нагадаем, што ўпершыню пытанне аб аднаўленьні дзейнасьці музея ўзнімалася яшчэ ў 1989 годзе "Таварыствам беларускай культуры ў Літве", якое ўзначальвае Фёдар Нюнька. Працяглы час літоўскія ўлады гаварылі аб немагчымасці рэалізацыі гэтай ідэі. На III з'ездзе беларусаў Балтыі ў ліпені гэтага года пытаньне аб аднаўленьні дзейнасьці музэю зноў абмяркоўваўся. Прадстаўнікі 12-ці краін звярнуліся з гэтай прапановай да ўрада і дэпутатаў парламента Літвы. Мяркуецца, што музэй будзе разьмяшчацца ў тым жа будынку былога базыліянскага манастыра ў Вільні, дзе ён дзейнічаў раней.

Музэй быў створаны ў 1921 годзе на базе прыватнай калекцыі археолага і этнографа Івана Луцкевіча. Ён існаваў да 1945 года, а затым быў закрыты савецкімі ўладамі. Асноўная частка калекцый была перададзена ў Гісторыка-этнаграфічны музей Літвы і Цэнтральную бібліятэку Акадэміі навук Літвы. Невялікая частка экспанатаў (у асноўным, творчая спадчына вядомага беларускага мастака Язэпа Драздовіча) пасьля была вернутая ў Беларусь.

## "ВЕК ТАК НЯ БУДЗЕ"

Невялікая заля ўправы партыі БНФ ледзь зьмясьціла ўсіх людзей, якія прыйшлі сёньня на прэзэнтацыю кнігі Надзеі Дземідовіч. З Баранавічаў, Пінску, Гарадзеі ды іншых гарадоў Беларусі сюды прыехалі людзі, якія, як і сама спадарыня Надзея, перанесьлі ўсе выпрабаваньні ГУЛАГу й бальшавіцкага тэрору.

"Век так ня будзе" — гэтак сказала маці Надзеі Дземідовіч Агрыпіна, калі ў 1950 годзе яе пятнаццацігадовую дачку асудзілі да 25 гадоў лягероў за сяброўства ў Саюзе Беларускай Моладзі. У гэтай кнізе — усё пакутнае жыцьцё Надзеі Дземідовіч, спачатку пад Польшчай, потым пад саветамі, далей пад немцамі, пасьля ў ГУЛАГУ.

(Дземідовіч:) "Калі б не было ў мяне гэтай сілы волі, каб я не любіла свой народ, сваю Бацькаўшчыну, я ўжо даўно не жыла б, таму што я вельмі шмат перацярпела. Апісваю кожную тую кропельку, што ў нас творыцца. Хачу, каб людзі й сьвет ведалі, як мы, беларусы, жывем, і як мы хочам свабоды й волі".

Адна з найбольш яркіх частак кнігі — расповед Надзеі Дземідовіч пра знакамітае Кенгірскае паўстаньне, у якім яна брала ўдзел.

"Стаяць жаўнеры, і я іду. Бачу, стаіць прыгожы жаўнер і настаўляе на мяне аўтамат. Думаю, няўжо стрэльне. Я ж маладая дзяўчына, а ты — малады хлапец. І ўсё роўна ён стрэліў... Запякло... Успыхвае дым, іду туды. А там газ пускалі на людзей. А я нічога не баялася, я была простая дзяўчына. Прыехалі людзі з залатымі пагонамі й гавораць: "Вы ж не вінаватыя, вы ж былі малалетнія. Вас цяпер выпусьцім на волю, выходзьце". Я гавару: "Ня выйдзем".

Людміла Майсеня — аўтарка прадмовы да кнігі Надзеі Дземідовіч "Век так ня будзе". Яна прыйшла на прэзэнтацыю з букетам белых і чырвоных ружаў.

(Майсеня:) "Тое, што зрабіла гэтая жанчына, гэтая кніга, ці як яна кажа "кніжачка", гэта тая справа, якая фактычна зьяўляецца ніткачкай, якая зьвязвае пакаленьні. Каб перадаць гэты моц беларускага характару, перакананьняў, любоў да радзімы. Прысутнасьць у гэтым жыцьці такіх, як яна, і нам дае сілы".

Вера Касмовіч з Гарадзеі гэтак сама, як і Надзея Дземідовіч, вытрымала ўсе пакуты сталінскіх лягероў. Іхнае сяброўства распачалося яшчэ ў ГУЛАГу.

(Касмовіч:) "Дык жывi ты доўга-доўга. Тварь, пішы, таму што ўсё, што пераж ыта, яно павінна пячы й балець, як агульначалавечы боль, як сьвежая рана, і каб нікому ў жыцьці ніколі не паўтарылася".

Кніга "Век так ня будзе" выдадзеная грамадзкім аб'яднаньнем "Дыярыюш" за сродкі самой Надзеі Дземідовіч.

"Век так ня будзе", — казала Агрыпіна Дземідовіч, калі даведалася пра прысуд ейнай дачцы. Сястра спадарыні Надзеі Алена сёньня адмыслова ўзгадала той дзень:

(Алена Дземідовіч:) "Мы, беларусы, верылі, што так заўсёды ня будзе, што ня можа так быць, каб увесь народ зьнішчылі. Мы, беларусы, выжылі й былі ўпэўненыя, што мы мацнейшыя за іх. Таму, маладыя пакаленьні, верце ў Беларусь, надзеіцеся й змагайцеся за яе".



## Віншуем

з 66-мі ўгодкамі жыцьця

### сп. Сакрата Яновіча

беларускага патрыёта з Беласточчыны, ведамага літаратара, публіцыста, культурнага і грамадзкага дзеяча і наагул заслужанага і высока інтэлігентнага чалавека.

Жадаем добрага здароўя, усяго найлепшага ў жыцьці ды далейшай плённай працы на беларускай адраджэнскай ніве. Многія Лета!